*Пролетары ўсіх краёў, злучайцеся!*

# ЗМАГАНЬНЕ

**ЧАСОПІСЬ ЦЭНТРАЛЬНАГА БЮРО БЕЛАРУСКІХ СТУДЭНЦКІХ ЗЕМЛЯЦТВАЎ У МАСКВЕ.**



**СШЫТАК ПЕРШЫ.**






ВЫДАНЬНЕ БЕЛТРЭСТДРУКУ
МЕНСК. 1924.



## АД РЭДАКЦЫІ.

Беларускае пролетарскае студэнцтва г. Масквы, шэрагі якога, з далучэньнем Гомельчан, пашырыліся аж за 1.000 сяброў, паставіла сабе задачаю ўтварэньне моцнай і цеснай сувязі паміж землячтвамі, якія знаходзяцца пры паасобных вышэйшых школах.

Адначасна паўстала патрэба больш выразна вызначыць нашу ідэолёгію, каб рашуча адрозьніць яе ад ідэолёгіі романтычна-незалежніцкай і іншых, якія знаходзяць сваё выяўленьне ў беларускіх студэнцкіх часопісях Польшчы і Чэха-Славаччыны.

Найбольш сталай формай сувязі і найбольш трывалай зброяй змаганьня з гнілой ідэолёгіяй зьяўляецца друкаванае слова, часопісь.

Кладучы ў падставу сваіх організацыяў падрыхтоўку да змаганьня за ідэалы комунізму, за адбудаваньне гаспадаркі і адраджэньне культуры зруйнаванага краю свайго, а разам і ўсяго Саюзу ССР,—мы гэткую-ж падставу паклалі і ў часопісь.

Безумоўна, ня ўсё тое, што павінна быць азначаным і выяўленым, знайшло сабе месца на старонках першага нумару. Безумоўна і правідлова і тое, што ня ўсё зьмешчанае ў ім выдаецца як нешта канчаткова аформаванае, „ідэальнае“. Усё—напісана выключна студэнтамі (за выключэньнем прамовы тав. Чарвякова—пачэснага адпаведнага сэкрэтара нашага цэнтральнага бюро) і кожны, хто будзе адзначаць адмоўныя бакі першага нумару—з гэтым павінен лічыцца.

Не маглі мы ня вылучыць старонак і для прыгожага пісьменства, для творчасьці моладзі, якая выхоўваецца ў Чырвонай Маскве і гартуецца да змаганьня за пастаўленыя намі мэты, разам з намі.

Хроніка студэнцкага жыцьця выяўлена не з задавальняючай поўнасьцю, на што былі свае прычыны. Спадзяёмся, што ў другім нумары гэтага ўсяго пазбудземся, што першы нумар дапаможа абмяняцца дасягненьнямі і думкамі аб напрамку працы з організацыямі Беларускага пролетарскага студэнцтва другіх акадэмічных асяродкаў, да чаго мы іх і заклікаем.

**За што мы павінны змагацца?**

За ідэі комунізму.
За ўмацаваньне Саюзу ССР.
За вызваленьне прыгнечаных усяго сьвету.

**Супроць чаго мы павінны змагацца?**

Супроць індывідуалістычна-уласьніцкай ідэолёгіі.
Супроць шовінізму.
Супроць панскага гвалту над братамі за кардонам.

# Роля беларускага студэнцтва паза-межамі Беларускай ССР.

## М. Мароз.

Беларусь у яе этнографічным выглядзе з даўных часоў, вякамі,— арэна барацьбы чужых інтарэсаў і культуры. Залежнасьць у працягу доўгіх тэрмінаў часу Беларускага дзяржаўнага жыцьця ад шмат дужэйшых, варожых да ўсяго беларускага, суседзяў—Літвы, Польшчы, Расіі,—зьневажаньне з боку дзяржаўных гаспадароў Беларусі да беларускай культуры і экономікі, стварылі для беларускага жыхарства на сваёй роднай зямлі невыносна цяжкае становішча. Адсутнасьць пры такіх умовах усякіх стымулаў для працы дома парадзілі надзвычайную беднасьць беларуса і ўтварылі неабходнасьць адходу і ад'езду з бацькаўшчыны за кавалкам хлеба на заработкі ў чужыя краі. Вучыцца беларускай моладзі таксама нельга было і адукацыя ў чужой культуры выпусьціла ў жыцьцё толькі невялікі лік людзей—„паноў з бліскучымі гузікамі",—якія, за малымі выключэньнямі, былі варожымі беларускаму народу і яго культуры.

Беларусь сумысьля была захована ад усякай культуры. Селяніна і рабочага-рамясьніка, ад каго залежала, трымалі ў цемры.

Аднак, мова і аднакавая гістарычная мінулая доля, аднакавасьць беларускага характару і псыхолёгіі, аднакія энтнографічныя і бытавыя асобнасьці беларусаў—ўсё гэта моцным цэмэнтам зьвязала беларусаў у адзін асобны народ. Беларускі народ гэтак зачакаўся паляпшэньня свайго экономічнага і культурнага дабрабыту, што ён гарою гатоў быў пайсьці за ідэямі правадыроў інтэгральнага беларускага рэнесансу.

Падмуроўкам гэтага рэнесансу найпярвей зьявіцца адраджэньне экономічнае. Усякі, хто абароніць беларускую маемасьць ад раскрадваньня чужаземцамі і ворагамі, хто зьбярэ і захавае яе на карысьць самых працуючых, хто абяражэ працу мазолістых рук беларуса і накіруе яе на паляпшэньне яго пакутнага гаротнага жыцьця—той знойдзе поўную спагаду і падтрымку ў сваёй дзейнасьці з боку працоўных беларусаў, бо ён гэтым і палепшыць дабрабыт самога гаспадара Беларускае зямлі і зробіць яго моцным і больш дзейным абаронцам ад нападаў варожых суседзяў, і дасьць магчымасьць мяккаму характарам, спакойнаму дабрадзею-беларусу быць карысным дзеля мірна-працуючых суседзяў і ўсяго чалавецтва. Ніколі беларус ня пойдзе за тымі, хто абкрадвае яго ў сваіх інтарэсах. Ён любіць працу і можа працаваць упарта, творча. Трэба яму дапамагчы ў гэтай працы. Але трэба і забясьпечыць яму карысьць ад яе.

Цяпер, калі навукай і жыцьцём цьвёрда і непарушна даказаны факт існаваньня самастойнага беларускага нацыянальнага твору, самастойнай беларускай мовы і культуры сярод раўнапраўных славянскіх моваў і культураў інпіых народаў, калі пад аховаю ўлады рабочых і сялян,—Савецкай Улады,—забясьпечана магчымасьць жыць і працаваць—беларус знае за кім яму ісьці і што яму рабіць. Яму трэба хутчэй залечваць балячкі мінулага і хутчэй займаць пачэснае месца сярод іншых раўнапраўных культурных народаў, вызваленых разам з ім, але больш за яго дасягнуўшых у сваім дзяржаўным і культурным жыцьці. Больш як каму, рабочым і сялянам Беларусі патрэбна найкарацейшая сьцежка да сваей найвышэйшай мэты. Пры выбару шляху двух думак быць ня можа. Гэты шлях вызначан цьвёрда і надоўга Правадыром рабочых і сялян усяго сьвету—„Комуністычнай партыяй", галавой рабочага і сялянскага руху ўсяго сьвету—гэта раскрыцьце магутных, быўшых потэнцыяльнымі, нацыянальных багацьцяў нацыянальнае душы, поўнае скарыстаньне ўсіх бязспрэчных каштоўнасьцяў нацыянальнае думкі і дасягненьняў нацыянальнае культуры.

Служэньне рабочым і сялянам свае нацыі праз іх мову, культуру экономіку краю—ёсьць разам з тым служэньем рабочым і сялянам усяго сьвету. Вось шлях—і толькі адзін—для ўсіх, хто вышаў з працоўных сваей нацыі і хоча служыць ім накаплёнымі ведамі і дзейнасьцю. Хістаньням і млявасьцям месца няма. Хто не з рабочымі і сялянамі на гэтым іх шляху—той супроць іх. А Беларусь, аб якой мы гаворым, будзе толькі Работніцка-Сялянскай, Радавай Рэспублікай—альбо ніякай Беларусі ня будзе зусім. Практыка апошніх шасьцёх гадоў працы ў Савецкай сыстэме дзяржаўнасьці непарушна даказала бясьспрэчнасьць гэтых вынікаў. Трэба радавацца гэтаму тым, хто так думаў спачатку і скарыцца тым, хто думаў ці думае інацай.

Тое, што беларусы і ўсе насельнікі беларускае тэрыторыі, як і ўсе многалікія нацыянальнасьці ўсяго Савецкага Саюзу, пры Савецкай Уладзе знайшлі свой нацыянальны і дзяржаўны твар, раскрылі прыдушаныя нацыянальныя багацьці, растуць і мацнеюць на радасьць і карысьць усяго СССР і працоўных усяго сьвету, бясспрэчна даказана цэлым шэрагам дзеяў, экономічных, навуковых і культурных дасягненьняў і намераў на ўсёй Савецкай частцы Беларусі.

Аб тым, як узьнялося і прагне да творчай працы, да навукі, да ведаў, ўсё жывое з усяго нацыянальнага організму беларуса і іншых нацыянальнасьцяў на Беларусі—так сама гаварыць многа ня трэба бо гэта ня відна толькі сляпому ці злачынна заплюшчваючаму вочы на пачаўшыся і пашыраючыся рух. Для пакіраваньня гэтага руху і здавальненьня адпаведнымі сіламі ўсіх галін гаспадаркі і культуры Беларусі патрэбны вялікія кадры высока кваліфікаваных працаўнікоў.

Значная частка беларускай моладзі, сыноў і братоў рабочых і сялян усіх беларускіх нацыянальнасьцяў, рынулася шукаць ведаў і атрымліваць вышэйшую адукацыю ў вышэйшых унівэрсытэцкіх гарадох ня толькі БССР, а і ўсяго СССР і ўсяго сьвету. У нашы мэты ня ўваходзіц гаварыць тут аб моладзі ў вышэйшых школах БССР, а толькі аб той, якая апынулася па-за яе межамі. Асабліва значны лік беларускай моладзі вучыцца ў вышэйшых школах Масквы, Ленінграду, Харкава, Варонежа і інш. Усім беларускім студэнтам, з'організаваным у савецкіх гарадох у беларускія студэнцкія пролетарскія зямляцтвы, ясна бяспрэчная неабходнасьць прыйсьці на адбудову экономічнага дабрабыту Беларусі, каб узьняць яе і зраўняць з найбольш культурным

экономічнымі адзінкамі СССР. Ім трэба вучыцца. І яны вучацца, каб мець ня толькі сталыя веды ў розных галінах жыцьця і гаспадаркі, але і вучацца прыстасоўваць гэтыя свае веды праз прызму беларускіх экономічных, політычных, культурных і бытавых асобнасьцяў. Праца і падрыхтоўка да працы ў адраджэньні беларускай экономікі, навукі, мовы, літаратуры, мастацтва—знойдзе апору ў маладых новых працаўнікох беларусах.

Цэлы шэраг беларускіх студэнцкіх, навуковых, культурна-асьветных, клюбных і іншых організацыяў пакрылі і пакрываюць яшчэ больш густою сеткаю ўсю тэрыторыю СССР з беларускім жыхарствам і моладзьдзю. Беларускі сэктар Комуністычнага Унівэрсытэту Нацыянальных меншасьцяў Захаду, беларускія катадры пры 1 і 2 Маск. Дз. Унів. і іншых вышэйшых школах Масквы і Ленінграду, Беларуская Драматычная Студыя ў Маскве, Песьнёвая Комісія, хоры, клюбы, бібліатэкі, часопісі, землячтвы, гурткі па навучэньню мове і інш—ўсё сьведчыць, што беларуская студэнцкая моладзь у СССР свой шлях знайшла і бадзёра па ім пойдзе далей—наперад і наперад, да адваёвы для Беларусі яё пачэснага месца сярод другіх Савецкіх Рэспублік Савецкага Саюзу.

Гэтую працу трэба падтрымаць морально і экономічна, паглыбіць і пашырыць ува ўсе бакі, зрабіць больш сталай і плянавай—і багатыя вынікі доўга чакаць сябе ня прымусяць.

Ня тое мы бачым сярод беларускай вучнёўскай моладзі, закінутай замежы Беларускай ССР, на захад ад яе. Калі наогул, працуючы над узмацненьнем савецкай беларускай дзяржаўнасьці, беларускай экономікі і ўсяго дабрабыту, беларускай мовы і культуры, мы не павінны ні на хвіліну забываць нашых абавязкаў у адносінах да ўсяго беларускага жыхарства на захадзе, не забываць, што нам патрэбна захаваць нацыянальны беларускі твар ад полёнізацыі ў заходняй Беларусі, то ня трэба забываць і таго, што перш за ўсё трэба правідлова падрыхтаваць перадавых правадыроў і выявіцеляў беларускага руху—беларускую моладзь, якая і там «вучыцца», каб прыйсьці на дапамогу ўціснутаму беларускаму селяніну і рабочаму, на дапамогу сялянам і рабочым другіх нацыянальнасьцяў на захопленых Беларускіх абшарах.

Як-жа разумее свае абавязкі беларуская студэнцкая моладзь па-за межамі БССР на захад ад яе?

У той час, калі мы тут, у Менску, Маскве, Ленінградзе і ўсюды на савецкіх абшарах, зразумелі, што Беларусь будзе толькі пры Савецкай ўладзе, што ўлада і павінна быць толькі ў руках рабочых і сялян, самых гаспадароў Беларускае зямлі, і ніякіх згодніцтваў з буржуазіяй быць ня можа, што сувязь і еднасьць у беларускім пытаньні могуць быць толькі па клясаваму адзнаку—там, беларускія студэнты, ідучы за буржуазнымі і дробна-буржуазнымі беларускімі народніцкімі і сацыял-згодніцкімі правадырамі, ў Коўне, Вільні, Празе—сваё збаўленьне і вызваленьне з пад польскага ярма сваіх бацькоў і братоў бачаць толькі ў еднаньні па адзнаку нацыянальнаму, па адзнаку беларускасьці. Нацыянальныя інтарэсы ў іх вышэй клясавых. (Гл. «Беларускі сьцяг», Коўна, № 2—3 і др. замежныя часопісі, артыкулы і выданьні). Рабочыя, згодна іх думак, ніколі ня вызваляць сялян. Сяляне, як кляса, самі павінны сябе вызваліць. Павінна ўхіляцца ад «комуныраю». Павінна вясьціся «ўпартая барацьба вёскі з горадам». Беларусь толькі для беларусаў. І калі частка віленскага беларускага студенцтва звала беларускую моладзь на служэньне пяцём насяляючым Беларусь



нацыянальнасьцям—гэта выклікала вялікае абураньне на яе з боку рэшты беларускай студэнцкай моладзі.

З гэтых некалькіх, кінутых тут у беспарадку і коратка, думак, выяўляючых ідэолёгію беларускай студэнцкай моладзі па-за заходнімі межамі, можна ўбычыць, як зблудзіла і гібее ў лесе „з трох дрэваў“ беларуская студэнцкая моладзь—і яшчэ больш яскравей становіцца правідловасьць шляху нашае моладзі тут, у межах Саветаў.

Але і такая зьвіхнутая ідэолёгія ў беларускім руху мае свае тлумачэньні, якія мы павінны старацца зьніштожыць, як сярод беларусаў па-за межамі, так і прасьцярагчы сябе ад ухілаў у яе бок. Трэба мець на ўвазе вось што.

І экономічна-культурны і нацыянальны беларускі рух зьвязаны цесна паміж сабою. Экономічнае і культурнае прыгнечаньне для адсталай Беларусі было адначасна і нацыянальным прыгнечаньнем. З прычыны таго, што ўся буржуазія на Беларусі была ня сваёю, а прыежджаю, што інтэлігэнцыя, якая ў невялікім ліку выйшла з беларускай нацыі, так сама адукавалася ў чужой культуры і служыла да апошніх часоў не сваёй нацыі—можна лічыць, што беларускі народ увайшоў у жыцьцё амаль бяз буржуазіі і бяз моцнай нацыянальнай інтэлігэнцыі. І гэта добра. Нацыянальны ўздым упаў на працоўныя слоі беларускага народу. Нацыянальны рух праз гэта зьліўся з соціялістычным рухам. Гэта так сама добра. Трэба было захапіць гэты рух у свае рукі найбольш жыцьцёздольнаму слою пролетарыяту—Комуністычнай партыі. І гэта і зроблена ў Савецкіх частках Беларусі. Але гэтага ня зроблена было ў Заходняй Беларусі. І гэта кепска. Бо, прычакаўшыся свайго вызваленьня, замежны беларус і пайшоў на нейкі час за незалежніцкімі, дробна-буржуазнымі правадырамі, якія далі яму замест хлеба—камень і атруту. У гэтым апошнім павінны, як аб‘ектыўныя стасункі гістарычнага жыцьця апошняга часу, так, часткова, і нашы абмылкі. К такім абмылкам трэба аднесьці варожасьць спачатку Кастрычнікавай рэволюцыі да беларускага культурна-нацыянальнага руху Комуністычнай партыі,—абмылка, якая нарабіла шмат шкоды, узмацаваўшы на нейкі час беларускія незалежніцкія сілы. Цяпер абмылка скасавана. Трэба ісьці следам XII Партыйнага З‘езду РКП. Як абмылкі Комуністычнай партыі папіхалі беларускіх незалежнікаў і ідучае часткова за імі беларускае жыхарства і моладзь у бок варожых да Беларусі сілаў—літоўскай і польскай буржуазіі і соцыял-згодніцкіх элемэнтаў, так правідловае вырашэньне нацыянальнага пытаньня павярнула цяпер усіх іх у бок Савецкай улады. Пералом зроблен і падкрэсьлян тысячамі фактаў.

Найлепшым адказам на ўсе хістаньні і шуканьні шляхаў у лягэры нашых ворагаў будзе паглыбленьне і пашырэньне нашай працы і дасягненьняў на абраным намі шляху і ў Менску і па замежамі яго на ўсход.

Беларускі рух ідзе і пашыраецца. Ёсьць яшчэ і шмат незалежніцкіх буржуазных і дробна-мяшчанскіх тэндэнцыяў у ім. Трэба з імі змагацца. Гэта ня пустая справа, а патрэбнасьць.

Усей беларускай студэнцкай і вучнёўскай пролетарскай моладзі трэба памятаць, што кожны радок, напісаны імі па беларускі, кожны іх ліст на сваёй б. хамскай, мужычай, а цяпер дзяржаўнай ня толькі ў БССР, а і увасім СССР, беларускай мове, да сваіх кроўных і знаёмых, кожная прамова на гэтай мове, кожны крок к узмацненьню беларускай гаспадаркі і культуры рабочых і сялян—гэта цьвік ў дама-

віну ўсім буржуазным ідэолёгіям і ўсім буржуазна-незалежніцкім тэндэнцыям у беларускім руху. На працу!

Нас чакае ўсалода росквіту беларускай гаспадаркі і культуры. І гэта справа ня наша хатняя, а справа ўсяго Саюзу ССР. Мы можам паблізіць момант гэтага росквіту. Мы гэта павінны зрабіць.

І мы зробім!

Матар'яльнае становішча нашай вучнёўскай моладзі яшчэ вельмі і вельмі цяжкае. Бо бязьмерна цяжкае становішча і самой Беларускай Рэспублікі. Мы атрымалі ў спадчыну ад многагадовых войнаў на нашай тэрыторыі адны руіны і абвалкі. Але, як цяжкая спадчына не затрымала ні на хвіліну падняцьця, узросту і росквіту беларускай дзяржаўнасьці, гаспадаркі і культуры, так беднасьць і недахваткі ў жыцьці беларускіх студэнтаў у савецкіх умовах ні на адзін градус ня зьменшылі прагноту гарачых сэрцаў моладзі да ведаў і да падрыхтоўкі к працы на Беларусі. Праца ідзе і пашыраецца. Сьвядомасьць і сталасьць растуць. Адначасна расьце і багацее Беларуская Рэспубліка. Гэта значыць, што дапамога студэнцтву не за гарамі. Бо той вялікай ролі, якую прызначана адыграць беларускай пролетарскай вучнёўскай моладзі ў адбудове Беларусі і патрэбе дапамагчы гэтай моладзі, урад маладой Савецкай Беларусі ніколі ня супярэчыў. Гэты факт павінен яшчэ больш акрыліць імкненьні беларускай моладзі, каб яшчэ выразьней паказаць нашым закардонным зблудзіўшым братом—як многа можна зрабіць і бяз вялікіх матарь'яльных сродкаў стаючы на правідловым шляху, ў той час, як з прагніўшай ідэолёгіяй яны нічога ня могуць зрабіць нават на чэшскія стыпэндзіі і на дапамогу іншых варагоў Савецкай улады.

29/II 24

Масква.

# Пашырэньне БССР.

*(Стэнограма прамовы Старшыні ЦВК Саюзу ССР, ЦВК і СНК БССР тав. А. Чарвякова на агульным сходзе студэнтаў беларусаў г. Масквы 9-га сьнежня 1923 г.).*

Калі мы падыходзім да пытаньня аб абшары Беларусі, дык перад намі паўстае патрэбнасьць перад усім высьвятліць наступнае; папершае, якім парадкам Савецкая Ўлада і Комуністычная партыя вырашаюць пытаньні наконт вызначэньня абшару тае ці іншае Савецкае дзяржавы; падругое, чаму ў адносінах да Беларусі вызначеньне яе абшару адбываецца толькі пасьля трох гадоў існаваньня Савецкае Беларусі—у той час, калі самае агалашэньне Савецкае Беларусі адбылося шмат раней, як вам вядома, яшчэ ў 1919 годзе. Адказваючы на ўсе гэтыя пытаньні, мы павінны трымаць на ўвазе тую прынцыповую позыцыю, якую займае Комуністычная партыя ў пытаньнях нацыянальнае політыкі. Нацыянальна-рэволюцыйны рух у адным выпадку можа саўпадаць.

З задачамі, якія стаяць у даны момант перад Савецкаю Ўладаю і перад Комуністычнаю партыяю,—у іншых варунках можа не саўпадаць з гэтымі задачамі. Гэткім парадкам, у розныя моманты адносіны да нацыянальнага руху той ці іншай краіны могуць быць неаднальковымі. Калі мы гаворым аб беларускім нацыянальным руху, дык і тут так сама, як і ў кожным іншым нацыянальным пытаньні, належыць заўважаць налічча гэтых двух магчымасьцяў. Каб пазбыцца блытаніны пры вырашэньні беларускага пытаньня і каб папярэдзіць шкодныя ўхілы ў яго ўразуменьні, нам належыць *стаўляць* гэтае пытаньне ясна і дакладна. Мы вырашаем беларускае пытаньне, як і ўсякае іншае нацыянальнае пытаньне, выходзячы з тых аснаўных задач, якія паставіла перад намі Кастрычнікавая Рэволюцыя, якія стаўляе перад сабою Комуністычная партыя. Гэтыя задачы месьцяцца ў тым, каб праз міжнародную рэволюцыю, праз зьнішчэньне капіталістычнага ладу перайсьці да ўтварэньня новае комуністычнае грамады. Гэта тая аснаўная задача, якая вызначае сама сабою ўсе другарадныя пытаньні, якая дае магчымасьць утвараць правідловую ацэнку тых ці іншых мерапрыемстваў Комуністычнае партыі і Савецкае Ўлады. Калі мы ня будзем адыходзіць ад гэтае аснаўное задачы, дык мы заўсёды здолеем разабрацца, якая пастаноўка пытаньня і ў нас, у беларускім руху, зьяўляецца пастаноўкаю, адпавядаючаю гэтым аснаўны задачам. Гэта значыцца—будзе ясна—калі нашае ўразуменьне беларускага пытаньня зьяўляецца рэволюцыйным і калі яно зьяўляецца контр-рэволюцыйным. Цікавасьць бягучага моманту месьціцца ў тым, што Савецкая Ўлада замацавалася на абшары найвялізарнага сялянскага краю тады, калі

на ўсёй астатняй часьціне зямной кулі існуе капіталістычны лад. Мы павінны *перажырінуць* праз гэты этап рэволюцыі. Здолеем мы ўвайсьці ў новы этап толькі тады, калі няглядзячы на нязвычайны цяжар, які перажываецца Савецкаю Ўладаю дзеля слабага разьвітку вытворчасьці, мы захаваем спайку з сялянствам. Сялянства зьяўляецца пастаяннаю базаю, на якой капіталізм мае магчымасьць зараждацца, разьвівацца і ўзмацоўвацца. Гэта ўласьцівасьць сялянства, як соцыяльнае грамады, вельмі небязьпечна, калі ня будзе намі правідлова ўчытавацца. Сялянства рэволюцыйна толькі тады, калі яно змагаецца за зямлю супроць улады абшарнікаў-паноў. Сялянства рэволюцыйна тады, калі яно абараняе ўжо захопленыя землі, разам з рабочаю клясаю, супроць інтэрвэнцыі капіталістычных дзяржаваў, прабуючых шляхам ваеннаго ўмяшаньня вярнуць панаваньне ўлады абшарнікам. Але сялянства імкнецца атрымаць зямлю для таго, каб будаваць сваю індывідуальную гаспадарку, а не дзеля якіх-колечы іншых інтарэсаў Рэволюцыі. Сялянства можа зрабіцца контр-рэволюцыйным тады, калі яно ўгледзіць, што яго інтарэсы не задавальняюцца тэй уладаю, з якой яно ішло да гэтага часу. Асабліва трэба заўважыць гэтую акалічнасьць на Беларусі, дзе селянін быў надзвычайна задаўлены і дзе сялянства пад уплывам і ў процэсе рэволюцыі стала асазнаваць самаго сябе, дзе селянін пасьля даўгіх і цяжкіх гадоў панаваньня абшарнікаў пачуў магчымасьць на захопленай абшарніцкай зямлі будаваць сваю ўласную гаспадарку. І перад намі -- як перад партыяй, так і перад Савецкаю Уладаю, стаіць пытаньне аб найлепшым прыцягненьні гэтага селяніна да рэволюцыйнага будаўніцтва. Гэта—смычка, без якой немагчыма будзе далейшая наша праца. Мы жывем *на кардоне*. Польскі абшарнік зьяўляецца тым пудзілам, якога селянін баіцца. Мы ня можам і не павінны *пачываць на лаўрах*, ведаючы, што беларускі селянін зьяўляецца спадзейным хаўрусьнікам Савецкае Ўлады, бо ён у гэтым бачыць спадзейную гарантыю ад узвароту польскага пана. Гэтага мала. Папрабуем нашага беларускага селяніна перавесьці з тых умоваў, у якіх ён цяпер жыве на кардоне з Польшчаю і Эўропаю, крыху далей, міль на дзьвесьце. Папрабуем перанясьці яго хоць бы думкаю,—(неабхватныя прасьцягі нашых Рэспублік даюць магчымасьць гэта зрабіць)—у Кіргізкую рэспубліку. Тады аснаўны момант—заўсёдны страх перад узваротам абшарнікаў—адваліцца, тады ўжо адносіны сялянства да Савецкае Ўлады будуць вызначацца ня гэтаю, а іншымі акалічнасьцямі. Тады адносіны сялянства да Савецкае Ўлады і да рабочае клясы будуць ацэньвацца з пункту погляду тых экономічных выгодаў, якія атрымоўвае наш селянін ад хаўрусу з рабочаю клясаю. У гэты час на Беларусі існуе заўсёдная пагроза ад панскае навалы ў межы Савецкае Беларусі. Значным плюсам у нашу карысьць зьяўляецца тая акалічнасьць,што экономічныя ўмовы Польшчы куды горшыя чымся тыя ўмовы, ў якіх жыве наша сялянтсва. Але мы не павінны забывацца і на тую акалічнасьць, што, можа быць (хоць, безумоўна, гэта даволі цяжка ўявіць), пры дапамозе французкага ці амэрыканскага капіталу ў Польшчы ўтворыцца такое становішча, калі яе прамысловасьць узмацуецца і калі пры дапамозе пазыкі, бюджэт Польшчы стане мацнейшым, існуючыя цэны на хлеб пачнуць зьніжацца. Тады экономічна закардонны беларускі селянін будзе жыць лепш, чым наш,—тады, апрача таго, што селянін Савецкае Беларусі атрымаў зямлю, у яго нічога не застанецца, выключаючы, можа, тое, што ён, адначасна з атрыманьнем зямлі, атрымаў права вольнаго ўдзелу ў

дзяржаўным будаўніцтве. Мы павінны, будуючы сваю працу ў Беларусі, вызначаючы свае адносіны да беларускага селяніна, выходзіць з патрэбнасьцяў селянскае гаспадаркі. Тут усплываюць перад намі нязвычайна цяжкія пытаньні. Але мы іх павінны як-бы там ні было вырашыць, вырашыць найбольш мэтазгодна, вырашыць найбольш правідлова, калі мы падыходзім да вырашэньня пытаньня аб адносінах селяніна да Савецкае Ўлады, мы павінны таксама заўважаць тую акалічнасьць, на якую некаторыя з нас забываюцца: гэта тое, што селянін не павінен думаць, што Савецкая Ўлада, ад якой ён чакае тых ці іншых выгодаў і задавальненьня сваіх патрэбнасьцяў,—улады, якая стаіць вонках яго, улада, да якой ён мае вельмі пабочныя адносіны. Сялянін павінен заўсёды і ўсюды адчуваць, што Савецкая Ўлада — гэта ёсьць ён сам, што гэта—ня толькі комуністыя, ня толькі рабочыя, але гэта—ўсё селянства, якое прыймае чынны ўдзел у савецкім будаўніцтве. Перад намі паўстае пытаньне аб прыцягненьні ўсяго селянства да савецкага будаўніцтва, аб прыцягненьні яго да ўдзелу ў працы савецкіх установаў і савецкіх органаў; трэба, каб селянін ня толькі вымагаў ад улады. але каб ён і прыймаў удзел у працы і адпавядаў за працу Савецкае Ўлады.

У нас быў у адным месцы гэткі выпадак: сяляне абгаварвалі пытаньне аб будынку б. валаснога праўленьня. Пытаньне было ў тым, каб будынак прадаць і пабудаваць для валвыканкому новый дом. Між сялян чуліся гэткія думкі: „як-жа прадаваць,—гэта наша народная маемасьць. Вось пабудуйце сабе свой дом, тады і прадавайце.“ Гэта паказвае, што праца там была неправідловая, бо там сяляне выяўлялі сабе валвыканком уладаю з гары і не лічылі яго органам, які выказвае погляды самых сялян.

Гэткім парадкам, падыходзячы да беларускага пытаньня, мы адразу маем перад сабою вырашэньне наступных задач: 1) агульныя задачы рэволюцыі, 2) патрэбнасьць замацаваньня Рэспублікі пры ўмовах перавагі сялянства, і гэта, у сваю чаргу, высоўвае патрэбнасьць: а) экономічнага паляпшэньня становішча сялянства, б) прыцягненьня сялянства да савецкага будаўніцтва.

Папрабуем прасачыць гісторыю вырашэньня беларускага пытаньня ў умовах савецкае сапраўднасьці,—і мы атрымаем надзвычайна цікавы малюнак; мы ўбачым, што вырашэньні беларускага пытаньня ў разныя кругабегі развіцьця рэволюцыі заўсёды адпавядала вымаганьням змаганьня, агульным і паасобным задачам рэволюцыі. Першы раз Савецкая Ўлада адказала конкрэтна на тое, як яна ставіцца да вырашэньня беларускага пытаньня, у восень 1918 году. Тады ў Смаленску адбывалася партыйная конфэрэнцыя ў складзе прадстаўнікоў ад усіх беларускіх губэрняў. Гэта конфэрэнцыя, а яшчэ раней—конфэрэнцыя беларускіх комуністычных сэкцыяў у Маскве,—урачыста прагаласіла, што ў змаганьні, якое разгулялася між капіталістычным сьветам і Савецкімі Рэспублікамі, задача Комуністычнае партыі месьціца ў тым, каб да гэтага змаганьня прыцягнуць усю рабочую і сялянскую масу Беларусі. І, паколькі беларускі селянін зьвязвае сваё нацыянальнае вызваленьне са змаганьнем супроць капіталістычнага сьвету, Комуністычная партыя павінна прыняць на сябе кіраваньне гэтым змаганьнем. Комуністычная партыя прыняла на сябе гэта кіраваньне. У гэты момант выявіліся дзьве тэндэнцыі ў беларускім пытаньні: дробна-буржуазныя элемэнты папрабавалі праз утварэньне дэмократычнае Беларускае рэспублікі надзець кабалу на рабочых і сялян. Гэта быў адзін з надзвычайна-тра-

гічных момантаў у жыцьці беларускага народу. Куды пойдзе Беларусь? Па якой дарозе? Вы ведаеце, што Вільсон у гэты час выступіў са сваімі чатырнаццацьцю пунктамі, урачыста прагалашаючы, што буржуазія змагаецца за вызваленьне ўсіх народаў. Вы таксама ведаеце, што гэта прагалашэньне (дэклярацыя) была выкарыстана для рашчапленьня савецкіх рэспублік--для таго каб, праз гэта рашчапленьне разьбіць адзіны організм Савецкае Фэдэрацыі і тым самым зьнішчыць самую Савецкую Уладу. Толькі так, а ня інакш, можна растлумачыць сабе організаваньне ў той час буржуазнае Літвы, Польшчы, а таксама і пакусы да організаваньня дэмократычнае Беларускае рэспублікі. На супроць гэтаму, Комуністычнаю ўладаю была ўрачыста прагалошана Беларуская рэспубліка ў складзе ўсіх сваіх беларускіх губэрняў, і гэтым рэволюцыйныя рабочыя і сяляне Беларусі паставілі беларускае пытаньне так, як таго вымагалі інтарэсы Рэволюцыі. Мы вялі змаганьне не на жыцьцё, а на сьмерць. Тады ўся ўвага была сканцэнтравана на тым, каб наступленьне, якое пачалося ад Воршы, перайшло праз Польшчу, увайшло ў Нямеччыну, а можа і далей на Захад. Але змаганьне зацягнулася. Прыйшлося, вядучы змаганьне на фронце, пачаць працу па адбудаваньню гаспадаркі Беларусі, перайсьці да безпасрэднае органічнае працы. Працаваць прыходзілася на абшары Беларусі, які складаўся з двох частак: Заходняй, якая да таго знаходзілася пад нямецкаю окупацыяй, і Усходняй—якая ўжо ў працягу году карысталася выгодамі рэволюцыі. Зусім зразумела, што злучаць дзьве краіны, жыўшыя да таго ў зусім неаднолькавых варунках і зьвязваць іх у адно цэлае не выяўлялася магчымым. Перад намі стаяла задача, каб гэтыя абшары некалькі подмацаваць, падцягнуць і падрыхтаваць да тых вялікіх задачаў, якія ўжо стаялі перад Савецкай Фэдэрацыяй. Дзеля гэтага зусім зразумела, што амаль адначасна з прагалашэньнем Савецкае Беларусі мы самахотна падзялілі Беларусь на дзьве часткі, з якіх адна частка складалася з уласна Беларускае рэспублікі, а другая частка ўвайшла ў Савецкую Фэдэрацыю. У нас ня было думак, што ўваход усходняе часткі Беларусі можа шкодна адбіцца на інтарэсах беларускага рабочага і беларускага селяніна. Што ў той момант складала шкоду і хібу для селяніна?—Шкоду складаў узварот улады абшарнікаў і залежнасьць ад буржуазнага ўраду; паколькі гэта не магло мець месца, паколькі селянін атрымаў пад свой загад зямлю, а рабочы—фабрыкі і заводы, паколькі ўлада клапацілася ўцягнуць рабочага і селяніна ў савецкае будаўніцтва,—патолькі была поўная ўпэўненасьць, што інтарэсы рабочых і сялян будуць забясьпечаны ў поўнай меры, нягледзячы на далучэньне гэтых абшараў да Савецкае Расіі. Наадварот, гэта папяраджала магчымасьць затрыманьня далейшага разьвіцьця ўсходняе Беларусі, што нямінёна магло-б здарыцца, таму што Беларускі Урад змушаны быў-бы галоўную ўвагу вылучаць Заходняй—больш заняпаўшай частцы Беларусі. Дзеля гэтага зразумела, што Комуністычная партыя зусім сьвядома і з лёгкім сэрцам пашла на гэты падзел, гэты факт складае брыж другога этапу ў разьвіцьці беларускага пытаньня і беларускае дзяржаўнасьці. Затым падыйшла сумная пара: мы ня вытрывалі, змушаны былі адступіць з Заходняй Беларусі да Берэзіны, і Заходняя Беларусь апынулася ізноў у страшэнных умовах польскае окупацыі. У той-жа час Заходняя Беларусь, як непадзельная частка РСФСР, прымала ўдзел у агульным змаганьні, якое вялі рэволюцыйныя рабочыя і сяляне Савецкіх рэспублік на ўсіх фронтах: Усходнім, Паўднёвым, Паўночным і Заходнім. Мы змагаліся з тыфусам, з голадам, з чыгуначным, безладзьдзем;

апрача таго, рыхтаваліся да апошняй рашучай бойкі з буржуазіяй. Гэта складае трэці кругабег жыцьця Савецкае Беларусі. Разам з перамогамі Чырвонае Арміі ў 1920 годзе на Заходнім фронце прыйшло вызваленьне Беларусі ад польскае окупацыі і яе адраджэньне. Зразумела, што тут жа зразу перад намі паўстала пытаньне наконт таго абшару, які павінен увайсьці ў склад Беларусі. Але ізноў-жа-ж водлуг прапазыцыі Комуністычнае партыі Беларусі, пытаньне наконт абшару яшчэ ў восень 1920 году было зьнята з парадку дня. Гэта выклікалася, галоўным чынам, тым, што сялянскія і рабочыя масы Віцебшчыны і Гомельшчыны, якія мелі магчымасьць да гэтага часу браць удзел у жыцьці Савецкае фэдэрацыі, былі ўжо ўцягнены ў савецкае будаўніцтва і нічога рэальнага не атрымалі-б ад злучэньня іх з вызваленай Савецкай Беларусьсю. Гэта злучэньне магло-б быць ня толькі ня плюсам, але, наадварот, нават мінусам для нашага савецкага будаўніцтва. Мы тады паставілі гэткае пытаньне: намерым, што мы станем на шлях прагалашэньня Савецкае Рэспублікі ў маштабе ўсіх губэрняў, дзе пераважае беларускае насельніцтва; што гэта дасьць селяніну?—Селянін ацэніць гэты факт перад усім, як палепшаньне ці пагоршаньне яго матар'яльнага становішча, бо трэба сказаць праўду, што нацыянальнага руху так, як яго пнуцца выявіць шовіністычныя элемэнты Беларусі,—ў нас не існуе, а калі і заўважаецца, дык у вельмі нязначнай меры і, галоўным парадкам, між інтэлігэнцыі. І дзеля гэтага Комуністычная партыя, ведаючы, што ў той момант ня было магчымасьці палепшыць матар'яльнае становішча рабочых і сялян і што злучэньне беларускіх губэрняў магло ня толькі не палепшыць, а пагоршыць гэта становішча, адмовілася часова ад гэтага злучэньня. Комуністычная партыя наважыла тады весьці сваю працу на невялікім абшары, маючы на ўвазе, па-першае: потрэбнасьць хутчэй адбудаваць зруйнаванае і залячыць тыя раны, якія былі зроблены ў часе польскай окупацыі; па-другое,—на невялікім абшары вытварыць фактычна першы раз яшчэ вытвараемы опыт прыцягненьня беларускага селяніна ў савецкая будаўніцтва праз ужываньне яго мовы, праз спробу распрацаваньня гэтае мовы, праз беларускія школы і тэатры. Перад намі стаяла задача на опыце пераканацца, ці ёсьць магчымасьць рэальнага і практычнага вырашэньня пытаньня аб беларускай мове, культуры і г. д. Гэтыя пытаньні стаўляліся перад тымі нязначнымі групамі інтэлігэнцыі і пры тым вельмі адцягнена. Мы на працягу трох гадоў рабілі гэты опыт. Адзін з таварышоў, тут присутнічаючых, задаў пытаньне: ці ёсьць беларускія падручнікі і кнігі, ці ёсьць баларуская культура. Мы ў Савецкай Беларусі працавалі над гэтым пытаньнем тры гады, і я павінен сказаць, што нашы посьпехі перавышаюць нашы чаканьні. Беларуская мова ў нашым жыцьці і працы паступова пачынае набываць надзвычайнае значэньне. Фактычна толькі за тры гады ў дзяржаўным маштабе пачалася шырокая культурная праца над будаваньнем і адраджэньнем беларускае культуры. Калі мы падыходзілі да вырашеньня гэтага пытаньня, мы стаўляли перад сабою задачу найбольш глыбока прасякнуць у сялянскую гушчу, схапіць, як кажацца, селяніна ня толькі за яго жывот (экономіку), але так сама на падставе экономікі западданіць яго нашаму ідэёваму ўплыву, адрадзіць тое, што перад тым было задушана ў ім пад уплывам царскай жандарыі і польскага ўціску. Трэба сказаць, што гэтыя спробы завяршыліся нязвычайным посьпехам. Селянін верыў таму, хто гаманіў з ім на яго роднай мове і тлумачыў яму істоту

ўлады савецкай, як улады рабочых і працоўных. Цяжка сказаць, што адыграла тут большую ролю: ці ўжываньне беларускае мовы, ці тая блізкасьць улады, якую ён адчуваў пры ўспрыняцьці тлумачэньняў наконт істоты Савецкае Ўлады. Мне здаецца, што гэтыя два моманты ўзаемна адзін аднаго папаўнялі. У гэты час мы паступова прыйшлі да таго, што ўтвараем мову, беларускія кнігі, газэты і інш. Гэта праца, зразумела, яшчэ ня скончана. Гэта—праца яшчэ бліжэйшых дзесяткаў гадоў і больш. Гэта праца будзе скончана тады, калі будзе выбрана ўсё найбольш жывое, найбольш здаровае з розных адценьняў жывое народнае беларускае мовы, якая надзвычайна размаіта ў розных месцах беларускага абшару, і калі мы здолеем пабудаваць адзіную беларускую мову, аднолькава блізкую і аднолькава зразумелую для ўсяе сялянскае масы. Мы паступова да гэтага ідзем. Гэта вялікая і цяжкая праца, якая можа быць праведзенай толькі на падставе вялікага экономічнага і культурнага будаўніцтва. Мы ўтвараем кнігі; ужо цяпер яны ёсьць; у школах маюцца беларускія падручнікі. У гэты час робяцца і іншыя крокі, якія зьяўляюцца няўхільнымі і неабходнымі. У мінулым годзе мы спаткаліся з гэткім зьявішчам: сяляне пачалі адмаўляцца ад беларускае школы і кнігі. Чым гэта выклікана? Выявілася, што беларускі селянін, які вучыцца, каб мець магчымасьць выбрацца на дарогу, каб выйсьці ў людзі,—атрымаўшы пачатковыя веды ў беларускай школе, умеючы чытаць і пісаць пабеларуску, прыходзячы ў установу, або маючы жаданьне паступіць у вышэйшую школу, ня можа скарыстаць сваіх ведаў. Яму трэба перавучвацца расійскай мове, таму што ўсе вышэйшыя школы, усе ўстановы і інш. працуюць на расійской мове. Калі селянін будзе мець школу на беларускай мове, а адміністрацыя будзе на расійскай, дык, бязумоўна, утворыцца недарэчнасьць, абяцаючая няпрыемныя вынікі. Мы вельмі асьцярожна падыходзілі да пытаньня аб беларусізацыі вышэйшае школы, установаў і інш., лічачыся з тым, што апрача маладога пакаленьня, якое навучаецца баларускай мове, ёсьць яшчэ старэйшае пакаленьне, якое ня вучылася і якое можа карыстацца расійскаю моваю. Перад намі стаіць задача вельмі цяжкая і складаная, але Комуністычная партыя ўзяла на сябе гэту працу і праводзіць яе водлуг вызначанага пляну, утварыўшы агульны ўклад мерапрыемстваў па беларусізацыі. Нашы посьпехі ў галіне беларускага тэатру і іншых пачынаньняў вельмі вялікія. Беларускі тэатр, які тры гады ўзад насіў аматарскі характар, у гэтым годзе дае поўныя зборы, конкуруючы з наежджымі гастралёрамі - артыстымі Петраградзкіх і Маскоўскіх тэатраў. Гэта вынік напружанай і вялікай працы, вынік, які нас узмацоўвае на думцы, што мы ў сваёй працы стаімо на правідловым шляху, што мы вядзём яе правідловымі мэтодамі. Усё гэта ёсьць вельмі цікавы опыт на невялікім абшары. Гэты опыт мае ўжо дакладныя вынікі, і вось гэты опыт мы можам перанесьці на больш шырокі абшар, тым больш, што нашы пачынаньні прасякліся ў суседнія абшары і там навальна пачалі зараджацца ячэйкі дапамогі нашым мерапрыемствам у галіне беларускае культуры. З Віцебшчыны, Гомельшчыны і іншых губэрняў пачалі атрымоўвацца запросы, патрабуючыя беларускіх кніг, беларускіх песень, беларускага тэатру, беларускіх падручнікаў і г. д. У гэты час мы можам наш опыт у галіне культурнага будаўніцтва перанесьці на больш шырокі абшар, на той абшар, дзе большасьць насельніцтва складае беларускае сялянства, дзе пераважнаю зьяўляецца беларуская маса, дзе захавалася бела-

руская народная „разгаворная“ мова. Мы не маглі тры гады таму ўзад стаўляць сабе задачаю злучэньне гэтых абшараў, бо мы маглі-б унесьці вялікую каламесу ў галовы сялян і рабочых, таму што злучэньне гэта не давала-б ім практычна адчуваемых вынікаў. Селянін—практык і рэалісты. І гэта зусім зразумела. Тады мы знаходзіліся на дарозе да новае экономічнае політыкі. Мы тады былі яшчэ на раздарожжы, мы не маглі тады дакладна сказаць, як пойдзе далейшае разьвіцьцё экономікі. Мы ня ведалі, на што мы павінны былі зьвярнуць сваю галоўную ўвагу і што зьяўляецца другарадным у шэрагу тых прац, якія мы павінны выканаць. Мы не маглі тады адказаць на практычнае запытаньне селяніна, якім парадкам мы будзем будаваць нашу гаспадарку, бо мы ў будаўніцтве нашае гаспадаркі ішлі вобмацкам, ня ведаючы, што гэта за зьвер—новая экономічная політыка. Гэты кругабег прайшоў; цяпер вы чуеце новы голас адносна новых прынцыпаў нашага гаспадарчага будаўніцтва. Ад прынцыпаў беспляновага гаспадараньня, пабудаванага на самай вольнай конкурэнцыі, нам трэба пераходзіць да вызначанае пляновае гаспадаркі. Цэнтральны Комітэт нашае партыі гаворыць аб тым, што нам трэба папрабаваць устанавіць смычку між прамысловасьцю з аднаго боку, і сялянскаю гаспадарскаю з другога. Іншымі словамі, мы пераходзім да організаваньня пляновае гаспадаркі. Цэнтральнае Бюро Комуністычнае Партыі Беларусі, прыблізна месяцы чатыры назад, таксама стала на гэты шлях. Яно паставіла ў парадак дня пытаньне аб абшары Беларускае Рэспублікі, угрунтоўваючы гэта патрэбнасьцямі пляновае гаспадаркі.

Два началы мы паклалі ў падставу пры пастаноўцы пытаньня аб тэрыторыі Беларусі: папершае, экономіку гэтага району і налічча пляновага гаспадараньня і, падругое, культурную працу ў гэтым районе, выкарыстаньне мясцовае мовы для ўцягненьня ў савецкае будаўніцтва рабочых і сялян. Гэтыя мотывы, як бачыце, саўпадаюць з тэй мотывіроўкаю, якая комуністычнаю партыяй яшчэ ў 1918 годзе высоўвалася пры прагалашэньні Беларускае Рэспублікі, якія, водлуг політычных меркаваньняў, былі галоўнымі і пераважнымі пры вызначэньні патрэбнасьці прагалашэньня Беларускае Рэспублікі. У мотывіроўцы тады была фраза, што мы павінны ўцягнуць рабочых і сялян у змаганьне за Савецкую Уладу. На падставе ўчоту экономічных асабістасьцяў району, на падставе вывучэньня вытворча-дынамічных магчымасьцяў району, на падставе ўчоту асобнасьцяў быту і культуры гэтага району, — можна і належыць будаваць Савецкую Рэспубліку, уцягваючы ў гэта будаўніцтва ўсю найбольш актыўную сялянскую масу і ўскладаючы на яе адказнасьць за Савецкую Уладу, за Савецкую Беларусь. Вось гэта мы палажылі ў аснову, уздымаючы пытаньне наконт абшару Беларускае Рэспублікі. Нам ня раз прыходзілася чуць пытаньні: чаму Савецкая уладу не аддае захопленых ёй беларускіх абшараў. Віленская газэта „Наш Сьцяг» прабавала паказваць, што беларускія комуністыя вельмі добрыя, а вось у Маскве Комуністычная партыя нешта ня зусім добрая: яна ня хоча згадзіцца вярнуць захопленыя Расіяй краіны. Гэта —ці шкоднае заблуджэньне, ці сьвядомая провокацыя для таго, каб уклініць між РСФСР і Беларусьсю разлад і папрабаваць паслабіць нашы сілы. Нельга ацэньваць працу партыі і Савецкае Улады, як нечыю пэрсональную політыку. У гэты час пастаўлена пытаньне наконт абшару Беларусі, бо гэта пастаноўка пытаньня зьяўляецца сваечаснай і мэтазгоднай, усуцэль адпавядаючай

тым аснаўным задачам, якія стаяць парад Комуністычнаю партыяй і Савецкаю ўладаю і рабочаю клясаю цалкам і адпавядаюць інтарэсам сялян, рэволюцынізуючы і ўзмацоўваючы смычку гэтага сялянства з рабочаю клясаю. Вось чаму ў сучасны момант пытаньне вырашаецца ў дадатным сэнсе.

Вось гэтак, мы падыйшлі да таго кругабегу, калі інтарэсы дзяржаўнага будаўніцтва запатрабавалі, каб абшар беларускіх губэрняў быў злучаны і, гэткім чынам, была ўтворана, як клічуць некаторыя іронічна, „Вялікая Беларусь". Ці будзе яна вялікаю ці не,—гэта пакажа будучына, але што дзякуючы гэтаму мы пасунем наперад працу —гэта факт.

У гэты час прынцыпова ўжо вырашана пытаньне, што ў склад Беларусі будуць уключаны: Віцебшчына, у якой ад 60 да 70 проц. беларускага насельніцтва, Гомельшчына, частка Чарнігаўшчыны (апрача пяцёх паветаў) і два паветы Смаленшчыны. Пакуль-што вызначыўся гэты абшар. У падставу былі пакладзены дзьве адзнакі: як орыентыравальная адзнака—нацыянальная і як канчатковая—экономічная. Гэтыя паветы даюць нам большасьць беларускага насельніцтва. Гэткім парадкам, былі вызначаны ў аснове межы Беларускае Рэспублікі. Дасьлядуючы натуральна-гістарычныя адзнакі райёну, дасьлядуючы пытаньні сельскае гаспадаркі, якія адыгрываюць першарадную ролю, дасьлядуючы пытаньні ў галіне зямельнае політыкі і прамысловасьці, якія стаяць перад намі,—мы мелі магчымасьць зрабіць некаторыя папраўкі ў орыентыравальным пляне, распрацаваным на падставе нацыянальных адзнакаў. Як вы ведаеце з газэт, утворана комісія, якая павінна ўстанавіць канчатковыя межы Беларускае Рэспублікі. Межы саюзных рэспублик не вырашаюцца заканодаўчым парадкам, — гэта справа самых рэспублік. Дзеля гэтага межы Беларусі будуць вызначаны комісіяй, якая складаецца шляхам вылучэньня прадстаўніка ад БССР, РСФСР, УССР, а таксама прадстаўніка ад ЦВК Саюзу, якім у гэтым разе зьяўляецца тав. Енукідзе (ён будзе старшынёй гэтае комісіі.)

Гэта комісія дасьлядуе канчаткова пытаньне аб межах Беларусі, пасьля чаго адбудзецца аформаваньне злучэньня гэтых абшараў.

Вось як вырашаецца пытаньне наконт абшару Беларускае Рэспублікі.

Галоўным апраўданьнем для нас, водлуг волі лёсу, водлуг волі партыі, водлуг волі рабочых і сялянскіх масаў, якія стаяць пры ўладзе, зьяўляецца тое, што мы з поўнаю ўпэўненасьцю гаворым: тое, што ў гэты час робіцца Савецкаю ўладаю, адпавядае інтарэсам масаў, дапамагае ўзмацаваньню Беларускае Рэспублікі. І дзеля гэтага мерапрыемствы гэтыя павінны падтрымоўвацца ўсімі рабочымі і сялянамі, ўсімі актыўнымі элемэнтамі і ў першую чаргу вамі, якія ў недалёкай будучыне займуць командныя пасады ў нашай дзяржаве, якія ў гэты час рыхтуюцца быць штаб-афіцэрамі нашага краю.

---

# Савецкая Беларусь у зносінах з чужаземнымі дзяржавамі.

Г. Парэчын.

Сучаснае навучаньне аб дзяржаве прызнае, што сувэрэнітэт дзяржавы найбольш ясна і бясспрэчна вызначаецца ў яе праве на самастойныя зносіны з чужаземнымі дзяржавамі. Паглядзеўшы з гэтага пункту на Савецкую Беларусь, мы павінны бяз ніякіх хістаньняў прызнаць, што наша рэспубліка на працягу 2-х з палавінаю гадоў (16/1—21 г.—6/VII—23 г.) была дзяржавай сувэрэннай са ўсімі адпаведнымі правамі і функцыямі. Гэта добра ведалі эўропэйскія політыкі і юрыстыя. На Гэнуэскай конфэрэнцыі прадстаўнікі Антанты падымаюць пытаньне, ці можа савецкая дэлегацыя выступаць ня толькі ад імя РСФСР, але і ад імя другіх Савецкіх Рэспублік. Гэта права было прызнана толькі таму, што савецкая дэлегацыя мела перадаручэньні ад саюзных савецкіх рэспублік, у тым ліку і ад Савецкай Беларусі.

Савецкая Беларусь была абвешчана незалежнай рэспублікай 1-га студзеня 1919 г., роўна пяць гадоў таму назад. Праз некалькі дзён незалежнасьць яе была прызнана правіцельствам РСФСР. Окупацыя Савецкай Беларусі палякамі ў жніўні 1919 г. перашкодзіла яе аформіць сваё дзяржаўнае існаваньне. Толькі праз год Савецкая Беларусь вярнулася да дзяржаўнага жыцьця. Калі ў канцы 1920 г. стала больш-менш ясна, што яе жыцьцю на бліжэйшы час не пагражае заходні сусед, Савецкая Беларусь занялася формальным вызначэньнем свайго існаваньня, як дзяржавы. 16/1—21 г. Савецкая Беларусь заключыла саюзную ўмову з РСФСР, аналёгічную з умоваю, якая за 18 дзён перад тым была заключана паміж РСФСР і Украінаю. Гэта ўмова ў даным выпадку цікава для нас тым, што ў ёй ясна і пэўна гаворыцца аб сувэрэннасьці як Савецкай Расіі, так і Савецкай Беларусі. Яна ні ў якім стопні *не абмяжоўвае права Савецкай Беларусі на дыплёматычныя зносіны з чужаземнымі дзяржавамі.* Савецкая Беларусь пачынае з гэтага часу зносіцца, як з РСФСР, так і з буржуазнымі чужаземнымі дзяржавамі праз сваё паўнамоцнае прадстаўніцтва ў Маскве, якое ўключана ў дыплёматычны корпус. Тут-жа трэба адзначыць і факт саўсім іншага характару. Праз два месяцы пасьля падпісаньня дагавору паміж Савецкай Беларусьсю і РСФСР зьезд РКП прыняў рэзолюцыю т. Сталіна па нацыянальнаму пытаньню, у якой сказана, што Савецкая Беларусь у адносінах да РСФСР займае такое-ж самае становішча, як і Туркестан. З саўсім незразумелае прычыны беларускія дэлегаты на зьезьдзе не паправілі гэтае абмылкі, на якую потым прабавалі абапірацца працоў-

нікі самастойнасьці Савецкай Беларусі. На падставе гэтае абмылковае рэзолюцыі нават т. Сталін, які ніколі не належаў і ня мог належаць да гэтых праціўнікаў, а наадварот, заўсёды быў прыхільнікам самастойнасьці нашае рэспублікі хацеў уключыць у склад Наркамнаца разам з прадстаўніцтвамі аўтономных рэспублік і прадстаўніцтва Савецкай Беларусі, мусіць ня ведаючы, што яно ўжо знаходзіцца ў складзе дыплёматычнага корпусу. Прэзыдыўм УЦВК растлумачыў т. Сталіну сапраўднае становішча Савецкай Беларусі і адхіліў яго проэкт. (Гл. «Жизнь национальностей» за красавік 1921 г. *). Такім шляхам выкрышталёўвалася Савецкая Беларусь, як дзяржава. Адначасна яна пачынала прымаць удзел у міжнародным жыцьці. Пачынаючы з верасьня 1920 г. Савецкая Расія вяла перагаворы з Польшчаю, у якіх вырашалася судзьба Беларусі. Па розных прычынах пытаньне аб граніцах не магло быць вырашана без формальнага ўдзелу Савецкай Беларусі. Для польскага правіцельства патрэбна была згода правіцельства Савецкай Беларусі на тыя граніцы, якія ўстанаўляліся Рыскаю ўмоваю. Грунтуючыся на сваіх братніх адносінах з Савецкай Расіяй, Савецкая Беларусь даручыла яе прадстаўніку падпісаць умову і ад імя Беларусі. У першым артыкуле Рыскае ўмовы Польшча прызнала незалежнасьць Савецкай Беларусі. У гэтай-жа ўмове Польшча прызнала Савецкую Беларусь дэ-юрэ, і гэта было першым выпадкам дыплёматычнага прызнаньня нашае рэспублікі з боку буржуазнае дзяржавы. На падставе гэтага прызнаньня Савецкая Беларусь мела ў Варшаве свайго пасла. Другою буржуазнаю дзяржаваю, прызнаўшую Савецкую Беларусь дэ-юрэ, была Нямеччына. Прызнаньне Савецкай Беларусі Нямеччынай было ў зьвязку з Рапальскаю ўмоваю паміж РСФСР і Нямеччынай. Гэта ўмова не распаўсюджвалася на абшар Савецкай Беларусі. 5 лістапада 1922 г. была заключана дадатковая ўмова паміж Савецкай Беларусьсю (і другімі савецкімі рэспублікамі) і Нямеччынай аб распаўсюджаньні Рапальскае ўмовы і на Савецкую Беларусь (і другія савецкія рэспублікі). На падставе гэтае ўмовы Савецкая Беларусь да ўтварэньня СССР мела ў Бэрліне свайго паўнамоцнага прадстаўніка. Адносіны дэ-факто Савецкая Беларусь мела з Літвою, Латвіяй, Эстоніяй, Аўстрыяй, Чэха-Славаччынай, Турцыяй, Італіяй і Англіяй.

Апрача таго, Сав. Бел. заключыла ўмову з Санітарнай Комісіяй Лігі Нацыяў. Варт адзначыць, што нашы прыбальтыцкія суседзі Літва і Латвія адзін раз зьвярнуліся да НКЗС РСФСР з просьбаю зрабіць на Правіцельства Савецкай Беларусі ўплыў у тым сэнсе, што Сав. Бел. павінна прызнаць для сябе абавязковым рэпатрыацыю іх грамадзян згодна адпаведных артыкулаў іх дагавораў з РСФСР. НКЗС РСФСР растлумачыў ім, што дагаворы РСФСР з другімі дзяржавамі на тэрыторыю Сав. Бел., як і ўсякае іншае дзяржавы, утварыўшайся на абшары б. Расійскай Імпэрыі, не распаўсюджваюцца, і што пытаньне аб рэпатрыацыі можа быць вырашана толькі праз адпаведны дагавор з Беларусьсю. З Польшчаю Савецкая Беларусь мела нормальныя дыплёматычныя зносіны па ўсіх пытаньнях, прадугледжаных Рыскаю ўмоваю. Усяму сьвету вядома, што Польшча ня выконвае тых пунктаў Рыскае ўмовы, якія гавораць аб правох нацыянальных меньшасьцяў у Польшчы. Па гэтаму пытаньню Сав. Бел. зьвярталася да Польшчы з адпаведнаю нотаю, якая была першым актам беспасрэд-

*) Дата ў гэтым выпадку як і ў другіх не называецца таму, што пад рукамі няма матар'ялаў артыкул пішацца выключна напамяць.

ніх зносін Правіцельства Сав. Беларусі з чужаземнымі дзяржавамі. Трэба адзначыць, што сваім правам на беспасрэднія зносіны з імі Сав. Бел. наогул карысталася мала. І гэта саусім зразумела. Наша рэспубліка ня мела на мэце дэмонстраваць перад усім сьветам сваю незалежнасьць ад др. савецкіх рэспублік. Наадварот, яна заўсёды хацела паказваць, што яна ёсьць органічная частка вялікае сям'і Савецкіх Рэспублік, складаючых адзіны магутны савецкі стан супроць стану буржуазнага. Але гэта ня значыць, што ў пытаньнях не прынцыповага, а практычнага характару, Савецкая Беларусь адмаўлялася ад сваіх правоў на самостойныя зносіны з тымі дзяржавамі, якія мелі для яе асаблівы інтарэс. Напрыклад, Сав. Бел. заўсёды імкнулася гандляваць з сваімі суседзямі беспасрэдна і фактычна ажыцьцяўляла свае імкненьні. Яе гандлёвыя прадстаўнікі былі ў некалькіх пунктах Эўропы. У цяперашні час гандлёвыя замежныя опэрацыі Савецкая Беларусь вядзе галоўным чынам праз свайго прадстаўніка ў Бэрліне. У зьвязку з значным пашырэньнем гандлёвых зносін С. Б. з Англіяй магчыма ў блізкай будучыне назначэньне нашага гандлёвага прадстаўніка ў Лёндане. Жыцьцё паказала, што Савецкай Беларусі таксама, як і другим Саюзным Рэспублікам, патрэбна і карысна мець сваіх прадстаўнікоў у суседніх дзяржавах. Гэта жыцьцёвая практыка зрабіла свой уплыў на конструкцыю НКЗС і НКЗГ СССР. Само сабою зразумела, што саюзныя рэспублікі будавалі Саюз не для таго, каб пазбавіцца тых правоў, якія яны мелі да таго часу і якія сапраўды патрэбны ім для нормальнага разьвіцьця іх народнае і дзяржаўнае гаспадаркі. Яны ўвесь час былі пракананы ў тым, што Саюз гэтыя правы забясьпечыць ім у поўнай меры. Канстытуцыя СССР аб гэтым, праўда, нічога не гаворыць. І таму, хто ня ведае дэтальнай гісторыі пабудовы конституцыі, магло здавацца, што саюзныя рэспублікі, уваходзячы ў Саюз цалкам і поўнасьцю адмовіліся ад удзелу ў чужаземнай політыцы і замежным гандлі. Асабліва гэта магло здавацца пасьле ўручэньня Савецкай Беларусьсю (і др. саюзнымі рэспублікамі) чужаземным дзяржавам нотыфікацыяў аб утварэньні СССР, у якіх было сказана, што БССР (і др. сав. рэспублікі) перадалі СССР вядзеньне ўсіх міжнародных зносін і ажыцяўленьне замежных гандлёвых зносін, якія будуць утварацца хатнімі і замежнымі органамі НКЗГ. Сапраўды-ж саюзныя рэспублікі разумелі гэтую перадачу ў больш абмяжованым сэнсе. Зараз-жа пасьля прыняцьця конституцыі СССР паўстала пытаньне аб тым, у якіх формах павінен быць забясьпечаны іх удзел у органах, якія зносяцца з чужаземнымі дзяржавамі. Лёгка і бяз спрэчак былі знойдзены гэтыя формы. Ні адна саюзная рэспубліка не патрабавала свайго ўдзелу ў замежных органах ва ўсіх дзяржавах і ні разу вышэйшыя органы Саюзу ня высказваліся проціў удзелу саюзных рэспублік у замежных органах СССР у тых дзяржавах, дзе саюзныя рэспублікі маюць свае асаблівыя інтарэсы. Пытаньне было вырашэна Трэйцяй Сэсіяй ЦВК СССР, праца якая вялася пад кіраўніцтвам старшыні ЦВК СССР і ЦВК БССР т. Чарвякова, і якая прыняла палажэньні аб Нар. Кам. Зам. Спраў і Нар. Кам. Зам. Гандлю. Увага да пункту 13 палажэньня аб НКЗС і п. 25 пал. аб НКЗГ кажуць так:

1) У Паўнамоцных Прадстаўніцтвах СССР, якія знаходзяцца ў пунктах, маючых асаблівы інтарэс для якой-небудзь з саюзных рэспублік, НКЗС назначае саветніка і сэкрэтара па згодзе з правіцельствам зацікаўленнае саюзнае рэспублікі.

2) У гандлёвыя прадстаўніцтва заграніцаю, у пунктах, маючых асаблівы інтарэс для тае ці іншае саюзнае рэспублікі, па згодзе Нар. Кам. Зам. Гандлю і Савету Народных Камісараў Саюзнае Рэспублікі, уводзіцца прадстаўнік саюзнае рэспублікі, а ў прадстаўніцтвы, пры якіх маюцца Саветы, прадстаўнік Саюзнае рэспублікі ўваходзіць у якасьці сябра гэтых Саветаў.

Вось гэта тыя формы, у якіх Савецкая Беларусь будзе цяпер пасьля ўтварэньня СССР зносіцца з чужаземнымі дзяржавамі. Ці здавальняюць гэтыя формы Савецкую Беларусь? Прынцып, заложаны ў вышэйпаказаных пунктах палажэньняў аб НКЗС і НКЗГ, бязумоўна правідловы, але рэдакцыя іх нездавальняючая. Выраз „па згодзе“ саўсім ня ясна кажа аб тым, наконт чаго павінна быць згода: наконт „пункту“, наконт „прадстаўніка“, ці наконт таго і другога разам. Калі ад НКЗС і НКЗГ будзе залежаць і вызначэньне пунктаў, у якіх Савецкая Беларусь „мае асаблівы інтарэс“, дык такі парадак ніяк нельга прызнаць здавальняючым. З практыкі вядома, што вырашэньне падобных пытаньняў з паасобнымі Наркаматамі патрабуе шмат часу. Найлепш было-б, калі-б вышэйшыя органы СССР па згодзе з Саюзнымі рэспублікамі вызначылі ўсе такія пункты. Апрача таго, трэба адзначыць, што п. 25 палажэньня аб НКЗГ шмат ясьней гаворыць аб удзеле саюзных рэспублік у замежных органах, чым п. 13 палажэньня аб НКЗС. Ня ясна, напрыклад, маюць ці не саветнікі і сэкрэтары права беспасрэдна зносіцца з сваёю рэспублікаю. Трэба думаць, што гэта права будзе ўстаноўлена палажэньнем аб адпаведных прадстаўніцтвах.

Наш кароткі абгляд пытаньня аб зносінах Савецкай Беларусі з чужаземнымі дзяржавамі паказвае, што Савецкая Беларусь карысталася і карыстаецца ў гэтай вобласьці такою свабодаю, якая дазваляе ёй самой абслугоўваць свае замежныя інтарэсы. Тут-жа варт адзначыць, што і Савецкая Расія ў сучасны момант мае такія-ж самыя правы, як і Савецкая Беларусь. Не застанаўліваючыся падробна на пераўнаньні з гэтага боку саюзных савецкіх рэспублік з асобнымі дзяржавамі, якія ўваходзяць у склад Нямеччыны ці Злучаных Штатаў, лічу патрэбным і цікавым адзначыць, што Савецкая Беларусь, Савецкая Расія, Савецкая Ўкраіна і Савецкае Закаўказьзе, складаючыя СССР, маюць значна большыя правы, чым паасобныя нямецкія дзяржавы, не гаворачы ўжо пра штаты. Саюзныя Савецкія Рэспублікі падобны з гэтага боку скарэй да Канады і іншых доміньонаў В. Брытаніі.

## Праца цэнтральнага бюро беларускіх студенцкіх зямляцтваў І-го скліканьня (27 траўня—9 сьнежня 1913 г.

*(Са справаздачы Ц. Б.).*

### М. Кіеня.

Беларускія студэнцкія організацыі ў Маскве пачалі засноўвацца яшчэ ў 1921 г. Пачатак быў паложаны прадстаўніком БССР ў Маскве М. Марозам і нябожчыкам С. Булатам. Але настроі студэнцтва таго часу былі досыць нявыразнымі, досыць няяснымі. Дзеля гэтага, организацыі (першую скрыпку між якіх грала Асоцыяцыя пры Пятроўскай С.-Г. Акадэміі) ухіліліся ў шкодны для нас бок—ідэёва нявытрыманы. Статут, напр.,—шмат гаварыў аб агульных сходах, аб правох кіраўніцтва, але нічога не казаў наконт клясавае адзнакі пры прыёме ў гэныя асоцыяцыі. Дзеля гэтага, партыйныя таварышы ў іх не ўвайшлі за невялічкімі, лічанымі выключэньнямі. Большасьць склалася па прынцыпу толькі беларускасьці.

Гэткія організацыі, займаючыся больш за ўсё сьпевамі, скокамі, дэклямацыяй (што так-сама добра, але ў свой час) паказалі сябе ў процэсе (развоі) працы, як няжыцьцёвыя. Не адчувалася моцы.

Адначасна, адчувалася патрэбнасьць у нейкай організацыі, якая-б правідлова накіравала працу студэнцкае моладзі. Новыя формы знайшліся толькі пад канец 1922 году—студэнцкія зямляцтвы. У падставу быў пакладзены новы прынцып:

> Эканомічная ўзаемадапамога сябром зямляцтва; прыём толькі водлуг клясавае адзнакі і не па прынцыпу „беларускасьці“, а ўсіх тых, хто радзіўся на абшарах БССР у старых межах і закардоньні (Гомельскае зямляцтва існавала паасобку; віцебчане ўваходзілі пакрысе ў Беларускае зямляцтвы).

Гэтыя прынцыпы адбіліся на складзе зямляцтваў, якія заснаваліся пры 22-ох вышэйшых школах.

Даволі толькі прабегчы вачыма ніжэйпаданую таблічку, каб заўважыць гэта.

| Чарговыя №№ | НАЗВА ВЫШЭЙШАЕ ШКОЛЫ. | Партыйнасьць. | | | Профсаюзн. | | Соцыяльн стан. | | | Нацыянальнасьць. | | | | | Разам. |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | | Сябры РКП(б) | Комсамол | Беспартыйн. | Сябры проф. | Не сябры профсаюз. | Сяляне. | Рабочыя | Інтэлігэнты. | Беларусы | Жыды | Расійцы | Палякі | Іншыя | |
| 1 | 1-ы Маскоўскі Дзяр. Ун-т. . | 19 | 4 | 33 | 47 | 9 | 24 | 13 | 19 | 31 | 23 | — | 2 | — | 56 |
| 2 | 2-гі " " " | 17 | 17 | 53 | 73 | 14 | 32 | 26 | 29 | 35 | 47 | 7 | — | — | 87 |
| 3 | Ціміразеўская С.-Г. Акадэмія . | 18 | 3 | 37 | 51 | 7 | 48 | 7 | 3 | 50 | 5 | 2 | — | — | 58 |
| 4 | Інстытут Шляхаў Зносін . . | 15 | 4 | 25 | 39 | 5 | 22 | 13 | 9 | 35 | 9 | — | — | — | 44 |
| 5 | Ламаносаўскі Інстытут . . . | 23 | 8 | 12 | 41 | 2 | 20 | 18 | 5 | 24 | 19 | — | — | — | 43 |
| 6 | Сьвярдлоўскі Рабфак . . . | 18 | 6 | 3 | 23 | 4 | 16 | 10 | 1 | 18 | 8 | 1 | — | — | 27 |
| 7 | Каморніцкі Інстытут . . . . | 4 | 1 | 21 | 18 | 8 | 22 | 2 | 2 | 24 | 2 | — | — | — | 26 |
| 8 | Інстытут Грамадзянскіх Інж. . | 3 | 2 | 30 | 30 | 5 | 10 | 15 | 10 | 10 | 22 | 1 | 2 | — | 35 |
| 9 | Лесотэхнічны Інстытут . . . | 2 | 11 | 29 | 39 | 3 | 30 | 6 | 6 | 38 | 4 | — | — | — | 42 |
| 10 | Літарат.-Мастацкі Інстытут . | 2 | 2 | 5 | 7 | 2 | 8 | 1 | — | 8 | 1 | — | — | — | 9 |
| 11 | Ін-т Дзіцячае Дэфэктыўн. . . | 1 | 2 | 27 | 28 | 2 | 7 | 6 | 17 | 22 | 8 | — | — | — | 30 |
| 12 | Мэдыко-Пэдолёг. Ін-т . . . | 2 | — | 44 | 43 | 3 | 22 | 11 | 13 | 21 | 22 | 2 | 1 | — | 46 |
| 13 | Электро-Тэхнічны Ін-т . . . | — | 23 | 7 | 26 | 4 | 15 | 10 | 5 | 15 | 15 | — | — | — | 30 |
| 14 | Вышэйш. Тэхніч. Школа . . | 10 | 4 | 13 | 25 | 2 | 9 | 13 | 5 | 9 | 15 | 2 | 1 | — | 27 |
| 15 | Ін-т Народнае Гаспадаркі . . | 17 | 2 | 25 | 38 | 6 | 23 | 10 | 11 | 20 | 24 | — | — | — | 44 |
| 16 | Ком. Ун-т Народаў Захаду . | 25 | 8 | 13 | 25 | 21 | 34 | 12 | — | 38 | 4 | — | 4 | 1 | 46 |
| 17 | Вхутэмас . . . . . . . . | 2 | 4 | 9 | 13 | 2 | 4 | 5 | 6 | 9 | 6 | — | — | — | 15 |
| 18 | Маскоўскі Будаўнічы Тэхн. . | — | 7 | 15 | 17 | 5 | 8 | 10 | 4 | 15 | 7 | — | — | — | 22 |
| 19 | Мендзелееўскі Ін-т . . . . | 1 | 6 | 18 | 21 | 4 | 6 | 11 | 8 | 5 | 19 | 1 | — | — | 25 |
| 20 | Акадэмія Соц. Выхаваньня . | 7 | 1 | 2 | 9 | 1 | 2 | 4 | 4 | 1 | 9 | — | — | — | 10 |
| 21 | Горная Акадэмія . . . . . | 4 | 3 | 18 | 21 | 4 | 9 | 8 | 8 | 5 | 19 | 1 | — | — | 25 |
| 22 | Ін-т Організатараў Народнае Асьветы . . . . . . . | — | — | 9 | 9 | — | 5 | — | 4 | 9 | — | — | — | — | 9 |
| | Разам . . . . . | 190 | 118 | 448 | 643 | 113 | 376 | 211 | 169 | 447 | 281 | 16 | 11 | 1 | 756 |

Калі да гэтага дадаць яшчэ пагубэрскі склад, дык малюнак будзе зусім ясным.

| | |
|---|---|
| Меншчына | 392 |
| Гарадзеншчына | 98 |
| Віленшчына | 42 |
| Віцебшчына | 75 |
| Гомельшчына | 97 |
| Іншыя | 52 |
| Разам | 756 [1]) |

У Цэнтральнае Бюро 1-га скліканьня ўвайшлі т. т М. Г. Кіеня, А. Я. Пракапчук, Я. Я. Пех, С. Г. Іскрык, Я. Н. Крыцкі, Б. І. Бурштэйн.

Першыя задачы, якія паўсталі перад Бюро, гэта:

а) матар'яльная база;

б) памяшканьне для клюбу;

в) пашырэньне і паглыбленьне палітычнае і культурна-асьветнае працы ў зямляцтвах.

Першае пытаньне ўлатвіць было вельмі цяжка. Як відаць, большасьць сяброў—бедната. Сродкаў апрача стыпэндыі няма. Аб сяброўскіх узносах не магло быць і гутаркі, бо ў большасьці таварышоў ня бывае капейкі ў кішэні нават на газэту.

Прышлося шукаць дапамогі ад дзяржавы. Савецкая ўлада, зацікаўленая ў падрыхтоўцы спэцаў з сялянства і рабочых, чырвоных спэцаў—адгукнулася на просьбу студэнтаў.—Перш за ўсё—Савет Народных Камісараў БССР адпусьціў 1.000 чырв. рублёў на рэмонт абшчажыцьця. Далей—пастанавіў вызначыць 50 стыпэндыяў для сяброў зямляцтва. У лік гэтага ўжо адпушчана за люты 1924 г.—500 рублёў і за сакавік 24—500 зал. рублёў.

Калі дадаць да гэтага тое, што зямляцтвы могуць выявіць сваю ініцыятыву ў пашырэньні матар'яльнае базы шляхам наладжаньня концэртаў і г. д.—дык можна будзе сказаць, што галодны мінімум можна лічыць забясьпечаным.

Цяжэй было з памяшканьнем. Кругабег нэп'у заняў усе вольныя памяшканьні. Беларускі клюб, які існаваў з 1921 г.,—апынуўся на вуліцы. Бюро зямляцтваў падшукала другое памяшканьне—(Арбат, 51). Паўстала пытаньне аб грашах. Арэнды плаціць нябыло чым. Зямляцтвы пайшлі на компроміс—прапанавалі заняць і заарандаваць памяшканьне Беларускай драматычнай студыі з тым, што яна будзе даваць памяшканьне для карыстаньня зямляцтвам два разы на тыдзень. На першы погляд гэтага мала, але калі мы прымем пад увагу, што паасобныя зямляцтвы могуць карыстацца і карыстаюцца памяшканьнямі сваіх ВУЗ'аўскіх клюбаў, і што вялікае памяшканьне патрэбна толькі для агульна-беларускіх студэнцкіх сходаў—дык пытаньне будзе зразумелым.

З гэтымі дзьвюмя базамі—матар'яльнаю і памяшканьнем—ЦББСЗ падыйшло да практычнае працы. Адумысловая комісія апрацавала програмы па гісторыі, географіі, гісторыі літаратуры і мовы, якія разасланы былі ва ўсе зямляцтвы. Чаму ўзяты гэтыя прадметы?

1) Усе лічбы падаюцца аб складзе зямляцтваў да ўзбуйненьня Б. С. С. Р. У зьвязку з далучэньням новых абшараў склад зямляцтва павялічыцца.

ЦББСЗ кіравалася тым, што кожны працоўнік незадежна ад сваёй спэцыяльнасьці павінен ведаць Беларусь усебакова, каб быць у ёй карысным пасьля сканчэньня вышэйшае школы. Вызначаныя вышэй прадметы прывядуць да гэтага. Што тычыцца спэцыяльных прадметаў, як напр.,—глебазнаўства Беларусі, лясы і г. д.—для адпаведных ВУЗ'аў—дык яны разьбіраюцца і дасьлядуюцца пад кіраўніцтвам ці профэсуры ці больш сьвядомых таварышоў незалежна ад агульных прадметаў беларусазнаўства.

Паклапаціліся Бюро набыць і кнігі для гэтых прадметаў—на 800 рублёў золатам (падручнікі, прыгожае пісьменства).

Праца разьвінулася. Няма ніводнага зямляцтва ў складзе ЦББСЗ, у якім бы ні зьбіраліся што тыдзень студэнты, не разьбіралі-б таго ці іншага дакладу. Што тычыцца беларускае мовы, дык у тыя гурткі, у тыя зямляцтвы, дзе няма моцных з гэтага боку таварышоў—запрашаюцца сябры другіх зямляцтваў і праца ня спыняецца.

Люстэркамі для гэтай працы і павінна зьявіцца студэнцкая часопісь—„Змаганьне"—першы нумар якой мы друкуем напрадвесьні.

Нельга замаўчаць і таго факту, што Бюро паклапацілася пашырыць політычную сьвядомасьць сваіх сяброў. Час-ад-часу, як менскія таварышы (т.т. Чарвякоў, Ігнатоўскі, Багуцкі і г. д.) так і маскоўскія (т.т. Мароз, Кнорын) выступаюць перад агульнымі сходамі з дакладамі на тыя ці іншыя тэмы з політычнага жыцьця БССР і Саюзу ССР. Наколькі гэткія даклады цікавяць студэнцтва можна заўважыць хоцьбы з таго, што на некаторых сходах бывае па 800—900 чалавек, тады як сяброў зямляцтва ўсяго 756.

Адначасна падрыхтаўваюцца і навуковыя сілы з нашых шэрагаў, якія ўжо працуюць, ужо робяць карысьць. Трэба спадзявацца, што будуць карыснымі і далей.

Адзіны недахват, адзіны дрэнны бок нашае організацыі—гэта матар'яльныя варункі.

Калі дзяржаве, Савецкая Беларусь павялічыць суму, якую давала да гэтага часу; калі яна скарыстае студэнцтва наступным летам на практыцы ў Беларусі,—дык можна будзе сьмела сказаць, што галоўнае намі зроблена, што мы паступова прыблізімся да свае аснаўное мэты—абслугоўваньне інтарэсаў працоўных клясаў, адраджэньне гаспадаркі і культуры на Беларусі. Гэта будзе, залогам гэтаму зьяўляецца зробленае намі, наша імкненьне да навукі і да творчае працы.

---

# Студэнцтва і разьвіцьцё мастацтваў на Беларусі.

Ул. Гайдуковіч.

Адначасна з задачамі, якія высоўваюцца сучаснасьцю на першае месца ў нашым экономічным і гаспадарчым будаўніцтве, паўстае пытаньне аб мастацтве. Зразумела, што да гэтага часу мы не маглі вылучаць яму шмат увагі. Само жыцьцё вядзе да гэтага. Перш за ўсё мала знаходзіцца людзей, адданых мастацтву, бо яно, у большасьці, патрабуе ад чалавека вядомай самаахвярнасьці пры няпэўнай будучыне з боку матар'яльнага. Падругое — жыцьцё скваплiва на таленты, ня кажучы аб гэніях. Калі гэта тычыцца культуры больш сталых народаў, дык у найбольшай меры нас, беларусаў. Матар'яльныя варункі ці адрываюць талентныя адзінкі ад беларускай культуры і кідаюць іх туды, дзе яны, пасьля цяжкага шляху,—якім зьяўляецца шлях мастака, атрымаюць нейкі супакой і задавальненьне, ці пакідаць іх на волю лёсу гібець у вёсках нашае старонкі, накшталт у апавяданьні З. Бядулі (ня гледзячы на яго мажорны канец).

Першы развой (развой адыходу) адбываецца ў большасьці інстынктыўна, несьвядома, дзеля мэты самазахаваньня, тым ня менш ён мае тлумачэньне і з марксыцкага погляду. Другі (гібеньне талентаў) будзе яшчэ не малы час панаваць у нас, тым больш пры разарванасьці этнографічных абшараў на дзьве палавіны. У апошнім развою будзе шмат выпадкаў «падвойнасьці душы» — калі чалавек і ад свайго не адыходзе і да чужога ўсей істотай не прыстае. Аб шкоднасьці гэтага сьведчыць і Потэбня (Зап. по теории словесн.)

Даволі прагледзець таблічку разьмеркаваньня беларусаў у маскоўскіх вышэйшых школах. % у мастацкіх школах самы меншы. Трэба не забывацца і на тое, што большасьць з гэтага самага малога ліку зьвязана з Беларусьсю толькі номінальна. Адкінуўшы іх — мы будзем мець у Маскве зусім нязначную жменьку беларусаў у гэтых мастацкіх школах.

Тым большая адказнасьць кладзецца на іх і тым больш напружанай працы застаецца вымагаць ад іх, не забываючыся разам, што на Беларусі зусім няма адпаведных школаў.

Конкрэтна, мы, пакуль-што, маем зарэгістраваных беларусаў у літаратурна-мастацкім інстытуце, консэрваторыі, вышэйшай тэхнічна-мастацкай майстэрні («ВХУТЕМАС»). Дзеля гэтага прыходзіцца гаманіць наконт трох галін мастацтва. Сцэнічнае мастацтва знаходзіцца крыху ў іншых варунках і наконт яго—пасьля.

*Слова.* Сюды адыходзе творчая праца (песьняры, пісьменьнікі) і навукова-дасьледчая. Першая--як казалася і раней, вымагае таленавітасьці, крыху ня зусім звычайнага. Шлях вядомы—ствараць, наколькі хопіць гэтага самага таленту. Як-ні-як, праца ідзе. Пакрысе жыцьцё высоўвае на паверхню ўсё новых і новых маладых пісьменьнікаў і поэтаў. Ці праўда ці жарт, але на адным пэдагогічным факультэце ў Менску маецца больш 50 асоб, якія пішуць вершы. Пэўна ёсьць і прозаікі... Нашы часопісі так сама запаўняюцца напалову творамі моладзі. Гэта зьявішча цешыць. Зусім адваротнае ў навукова-дасьледчай працы. Няма ніводнага досьледу наконт поэтычных зваротаў мовы, ладу беларускіх народных песьняў, композыцыі песьняў і казак, дасьледваньня беларускага прыгожага пісьменства з формальнага боку (мэтрыка, рытміка, эўфонія, сюжэтолёгія і г. д.) Лічаныя працы ёсьць на расійскай мове, якія так ці йначай высьвятляюць гэта пытаньне.—(Акад. Карскі, «Беларусы», т. III в. I—падзел наконт ладу беларускіх народных песьняў; «Поэтика»—выд. 1919 г. у Петраградзе, дзе робіцца параўнаваньне композыцыі расійскіх і беларускіх казак).

Што гэта ўсё заслугоўвае ўвагі—няма і гутаркі. Сьмешна казаць, што мы ня маем да гэтага часу падручніка па тэорыі славеснасьці. Некаторыя браліся складаць яго, але спыніліся ў самым пачатку. Чаму? —зусім зразумела. Няма навуковых матар'ялаў. Калі мы возьмемся за геомэтрыю ці падобную навуку—дык застаецца заняцца ці перакладам, ці компіляцыяй, з прыстасаваньнем да мяйсцовых асаблівасьцяў. У тэорыі славеснасьці гэтага ня зробіш—эпітэты, тропы беларускае мовы іншыя, чымся, нават, у расійскай. Лад пабудаваньня поэтычных зваротаў, вобразаў—таксама, і г. д. Значыцца, пакуль усебакова ня будуць высьветлены паасобныя пытаньні тэорыі Слова—нельга спадзявацца на элемэнтарныя, популярныя падручнікі. На ўсё на гэта патрэбны час, патрэбна адумысловая падрыхтоўка. Чалавек, які надумаўся-б распачаць гэта ўсё зьнізу, ад складаньня элемэнтарных падручнікаў, павінен правесьці, літаральна, валатоўную працу.

Можа гэта пытаньне не тэрміновае? Наадварот—вырашэньне яго дазволіць кожнаму адукаванаму чалавеку больш глыбока азнаёміцца з псыхолёгіяй мовы, а наступным беларускім пісьменьнікам дасьць здаровы грунт для разьвіцьця іх творчасьці праз скарыстаньне дасягненьняў беларускага народу ў галіне Слова.

*Песьня і музыка.* Каштоўнасьць беларускае песьні нявызначана, бо мы мала яе ведаем. Трэба прызнацца ў пачатку, што ў агуле ў нас ёсьць запісаных ня больш 2.000 мэлёдыяў, што значная частка іх запісана выпадкова, а, значыцца, ня зусім задавальняюча. Апрача этнографічна-музычных зборнікаў Раманава, М. Косіч, З. Радчанкі, Н. Янчука, Грыневіча, Ул. Тэраўскага, Равенскага—частка якіх да гэтага часу не надрукавана, мы ня можам назваць іншае. Гэта ўсё, так званы, сырэц. Суладжаных (гарманізаваных) песьняў мы маем яшчэ менш. Толькі дзякуючы савецкай уладзе мы атрымалі адзін зборнік Тэраўскага (яго запісы і суладжаньне) і адзін зборнік Равенскага. Зложаная ў Маскве «Комісія Беларускае Песьні»—на чале з больш выдатнымі расійскімі композытарамі (М. М. Іпалітаў-Іванаў, А. Т. Грэчанінаў, А. А. Аленін і інш.) пасьля году сваей чыннасьці, праз які суладзіла песьні са сборніку Янчука і інш., спаткалася з поўнай адсутнасьцю запісаў народных мэлёдыяў, «сырцу». Добра, што хоць яны больш-менш стала апрацавалі той матар'ял, які быў. Але гэта ня ўсё—яны госьці, якім за працу—дзякуй. Застаецца: артыстычнае выкананьне суладжаных

песьняў (хор, солё, дуэты і г. д.); запісваньне ў вёсцы і суладжаньне новых; рытмова-музычны аналіз; ужываньне народных мотываў пры самастойнай композыцыі. Вядома, што выдатнейшыя композытары сусьветнае культуры адыходзілі ад народнага, а часам—скарыстоўвалі апрацаваныя народныя мэлёдыі ў сваіх творах.

Аб чым гаворка—патрэбны людзі, каб разьвінуць гэту справу ў належным аб'ёме.

Адносна музыкі (інструмэнтовай) можна сказаць яшчэ менш. Праўда, мы заўважаем распаўсюджаньне ў народзе скрыпак, цымбалаў, жалеяк, дудаў, лераў—але на тым і ўсё. Скажуць нам, што скрыпка, ужо ў крайнім выпадку з Італіі, цымбалы—з Бабілёну; дуду можа хто назаве шатланцкай валынкай,—але мы іх маем. Організатар маскоўскага оркестру старадаўніх інструмэнтаў—Любімаў—зьвярнуў увагу на беларускія інструмэнты. Але як? Ён іх пахваліў, цымбалы ўжо увёў у свой оркестр; пачакаўшы можа ўвядзе жалейкі, дуды. Гэта ня тое.

Патрэбны беларусы, ізноў-жа—адумыслова падрыхтаваныя, якія культывізуюць гэтыя інструмэнты, зложаць з іх оркестры, напішуць для іх музычныя творы, паложаць іх на клавір, будуць кіраваць гэтымі оркестрамі...

Вядома, што пры гэтым нельга занадта ўхіляцца ў бок культывізаваньня старога, калі яно не адпавядае вымаганьням сучаснасьці. Тав. Мароз у адным са сваіх дакладаў казаў: «зрэбная кашуля і лазовыя лапці характарызуюць быт беларуса да рэволюцыйнага часу. Наконт іх складаліся ў свой час нават песьні. Але гэта не зьяўляецца для нас падставай жадаць і імкнуцца скарыстоўваць гэтыя лапці і надалей, калі можна будзе пашыць добрыя боты і надзець кужэльную кашулю. Трэба імкнуцца да палепшаньня, да больш культурнага жыцьця»... Я сумысьля падаў гэты вынятак, каб не падумалі, што мною прапануецца „насіць лапці" і ў мастацтве...

*Выяўленчае мастацтва.* Няма нічога, што можна было-б сказаць наконт выяўленчага мастацтва (изобразательного искусства). Хіба тое, што ў нас ёсьць слуцкія паясы, якімі лічаць за абавязак падперазавацца ўсе адраджэнцы (нават дзяўчаты), ужо досыць апрыкрай орнамэнтыкай якіх аздабляюцца ўсе выданьні—у выглядзе віньетак, заставак, канцовак і г. д. А больш няма нічога... Няма нічога—калі кожны саматканы дыван і спадніца вясковай кабеты, кожны ручнік і настольнік хавае ў сабе орыгінальны рысунак, орыгінальнае злучэньне колераў. Няма нічога, калі толькі ў Магілёўскім музэі ёсьц больш чым 3.000 экз. беларускага разьбярства па дрэву, калі... Наогул самае меншае скарыстана намі ў гэтым напрамку. Без далейшага адкладу трэба заняцца зьбіраньнем, апрацоўваньнем і безадкладным надрукаваньнем (альбомы) беларускай орнамэнтыкі, дасьледаваньнем злучэньняў колераў, стылізацыяй. Тэхнічная стылізацыя дзеля мэты керамічнае і інш. прамысловасьці—прыйдзе за ўсім гэтым самохаць. Пасьля яе ня будзе, пэўна, такіх выпадкаў, калі на вокладцы выпісаў з беларускага прыгожага пісьменства, напрыклад, малююцца шарачковыя порткі, хай сабе адна тканіна на порткі...

Страшна жадаць, нават, карцін, нарысаў, малюнкаў з жыцьця Беларусі. Іх яшчэ так сама няма...

*І ўсё гэта чакае тых, хто атрымоўвае адукацыю ў мастацкіх школах маскоўскіх.*

# Чарговая праца на Беларусі.

**Е. Трухан.**

Нядаўна ўтвораныя беларускія зямляцтвы ўжо ўсуцэль падыходзяць да рэальнага зьдзейсьненьня сваіх задач. Падыходзяць вакацыі. Шмат якія студэнты паедуць у вёскі, параскіданыя на беларускіх абшарах. Там ёсьць шмат і шмат працы. Нашае Ц. Б. нясьпіць у шапку. Ужо атрыманы плян працы на мясцох у вёсцы: утварэньне гурткоў па ліквідацыі няпісьменнасьці (на Беларусі 67 проц. няпісьменных!) і правядзеньне шэрагу навукова-популярных і палітычных дакладаў. Трэба толькі практычна ажыцьцявіць вызначаныя задачы на мясцох. Пясьпяховасьць гэтае працы залежыць выключна ад нашае здольнасьці падыйсьці да сялянства, зацікавіць яго і ўцягнуць у гэтую працу. Задача ня лёгкая і да яе трэба падыходзіць асьцярожна і абдумана. Мне прыходзілася весьці працу мінулым летам у Пагоскай воласьці Слуцкага павету і ў Чырвонай Арміі. Я лічу ня лішнім падзяліцца ўражаньнямі, якія засталіся ў мяне пасьля працы. Трэба адзначыць, што ня ўсе даклады аднолькава цікавяць сялян, а некаторыя нават неправідлова іх цямілі. Мне прыходзілася доўга спыняцца на некаторых сказах (фразах) і тлумачыць іх. Адсюль ідзе, што даклады трэба пабудаваць у вядомай укладовасьці *і чытаць іх на зразумелай для сялянства мове*. Больш за ўсё цікавіліся сяляне дакладамі на эканамічныя і гаспадарчыя тэмы. Утварэньне гурткоў па ліквідацыі няпісьменнасьці вымагае таксама іншага падходу.

У першую чаргу трэба давесьці сялянству аб тэй шкодзе, аб тым няшчасьці, якія зьвязаны з цемраю і някультурнасьцю як для іх самых, так і ў агульным маштабе для Савецкае рэспублікі. Трэба даць некалькі прыкладаў з жыцьця саміх-жа сялян. З вамі тады згодзяцца, і толькі пасьля таго можна ўзяцца за працу. Роля студэнцтва выявіцца галоўным чынам у арганізацыйным баку гуртка і ў змаганьні з абыватальшчынай і мяшчанствам некаторых нашых працаўнікоў асьветы і іншых культурных дзеячоў на мясцох, бо ў гэтай працы трэба трымацца цеснай сувязі з імі. Пабудаваўшы такім парадкам ядро гуртка, можна спадзявацца, што гэта праца дасьць пажаданыя вынікі. Дарослыя выявяць вялікую цікавасьць да ведаў, а прымаючы пад увагу, што нашыя сяляне маюць шмат вольнага часу зімою, можна сказаць, што студэнты-беларусы з посьпехам выканаюць задачы ўзложаныя на іх зямляцтвам і гэтым самым падкрэсьляць, што зямляцтвы ня пустая фантазыя, як гэта думаюць некаторыя пэсімістыя, а жывы організм, які горача адгукнуўся на заклік Старшыні ЦВК Саюзу ССР і Беларусі тав. Чарвякова (ад 9-га сьнежня 1923 г.).

# На новы шлях.

## Мітрафан Х.

Організаваньне зямляцтваў—гэта старая форма студэнцкага аб'ядданьня. Але мы павінны ў старыя мяхі ўліць новае віно.

Нашыя зямляцтвы безумоўна ня тыя, што старыя. Мы жывем цяперака зусім у новых палітычных і экономічных умовах. Як раней так і цяпер грунтам аб'яднаньня служыць экономічны і духоўна-політычны бок, але ў істоце тут ёсьць розьніца. Возьмем экономічна. У гэтых адносінах зямляцтвы пакладаліся самі на сябе, за рэдкімі выключэньнямі. Цяперака—у меру магчымага нам ідзе насустрэч дзяржава.

У даўнейшых зямляцтвах ніколі не магло быць такога экономічнага базісу, які ёсьць у нас, ня гледзячы на тое, што мы існуем, як кажуць, бяз году тыдзень.

Мы не павінны спадзявацца, каб нам з неба зваліліся вялікія экономічныя і культурныя падарункі — мы павінны ствараць іх самі.

Ніхто ня можа быць для нас нянькай. Нават сьмешна гэтага і чакаць.

Другі базіс — стыпэндыі. Ці-ж гэта ня сур'ёзны базіс пры яго разумным выкарыстаньні?

Гэтыя два базісы даюць нам, якія выйшлі з шэрагаў працоўных, і будуць даваць найвялікшы імпэт да творчае працы.

Мы першая моцная організацыя з усіх Маскоўскіх зямляцтваў, бо перад намі, — што дае нам нейкае натхненьне (калі так можна казаць), пэрспэктывы практычнае працы на абшарах БССР, на адраджэньне гаспадаркі і культуры працоўных рабочых і сялян.

Гэта прымушае не западаць, а разьвівацца ўдожкі і ўшыркі.

Але мы не павінны цалкам спадзявацца на нешта-нейкае, на нянек. Кожны студэнт—сябар зямляцтва, павінен выявіць ва ўсім як найбольш актыўнасьці.

А да гэтага можна прыйсьці толькі цераз аб'яднаньне, цераз колектыўную працу і колектыўную падрыхтоўку да вышэй зазначанай чыннасьці на беларускіх абшарах.

# Наша праца.

## Е. Лаппа.

Рабоча-сялянская Беларусь таксама як і Савецкая Расія адчуваюць недахват кваліфікаваных працаўнікоў па будаваньню і палепшаньню дзяржаўнага апарату ў адносінах гаспадаркі і культуры, узмацненьню дыктатуры пролетарыяту.

ЦВК Беларусі бязумоўна павінен зьвярнуць увагу на студэнцтва Беларусі, якое знаходзіцца ў вялікім ліку ў Маскве. Гэта студэнцтва павінна быць кіраўнікам і пасрэднікам у падняцьці культурнага ўзроўню між пролетарыяту і бяднейшага сялянства ў Беларусі.

Для таго, каб гэта зьдзейсьніць, для таго, каб наша студэнцтва здолела спрытна і ў час падыйсьці да абслугоўваньня запросаў працоўных грамадаў Беларусі, для таго, каб палягчыць ЦВК БССР працу ў гэтым напрамку,—напрамку практычнага ажыцьцяўленьня, і перанесьці цалкам на плечы самога студэнцтва ўсю нізавую організацыйна-падрыхтоўчую працу, трэба паступова пачаць утвараць практычныя формы працы па прыцягваньню студэнцкіх масаў.

Першы этап працы павінен у сабе заключаць як найбольшае выкарыстаньне сілаў, гуртковае працы шляхам вывучэньня новае бягучае літаратуры, найноўшае гісторыі Беларусі ў сэнсе разьвіцьця профэсыянальнага руху ў Беларусі, вывучэньня беларускае мовы.

Другі этап працы—гэта паглыбленьне матар'ялу па вывучэньню Беларусі ў бягучым моманце ў зьвязку з пэрспэктывамі сусьветнае рэволюцыі.

Трэцім этапам будзе прыцягненьне больш выдатных сяброў гуртка ў вакацыйны час да вядзеньня практычнае працы на Беларусі.

Значыцца, зараз нашы погляды павінны кіравацца на першы этап працы, які стаіць на чарзе.

Ад правідловай пастаноўкі працы гурткоў будзе залежаць актыўнасьць у гуртках.

Ня будзем ганяцца за схэмамі працы, а возьмемся за дзела.

Дык да працы, таварышы!

# Жыцьцё і чыннасьць беларускага зямляцтва пры І-м Маскоўскім Дзяржаўным Унівэрсытэце.

Г. Манцэвіч.

Беларускае зямляцтва пры 1-м МДУ заснавалася вясною 1923 г. У падставу організацыі быў паложан наступны прынцып.

**Матар'яльная дапамога сваім сябром і вывучэньне Беларусі.**

Сябрамі зямляцтва маглі быць студэнты 1-га МДУ і рабфаку імя Пакроўскага, не пазбаўленыя права выбару па конституцыі РСФСР (бо організацыя ў Маскве) і зьяўляючыяся па свайму пахаджэньню ураджэнцамі БССР.

Увосень 1923 году была зроблена перэрэгістрацыя сяброў зямляцтва.

На 1-ае сакавіка 1924 г. лічыцца 56 сяброў зямляцтва. Падзяляюцца яны такім чынам.

**Па партыйнасьці:**

| | | |
|---|---|---|
| Сяброў РКП (б) і кандыдатаў | (35,7 проц.) | 20 асоб. |
| „ РКСМ . . . | (5,4 проц.) | 3 „ |
| Беспартыйных . . . | (59 проц.) | 33 „ |

**Па соцыяльнаму пахаджэньню:**

| | | |
|---|---|---|
| Рабочых . . . . | (25 проц.) | 14 асоб |
| Сялян . . . . | (43 проц.) | 24 „ |
| Працоўных інтэлігэнтаў . | (32 проц.) | 18 „ |

**Па профэсіях:**

| | |
|---|---|
| Працаўнікоў асьветы . . . . | 13 асоб |
| Савецкіх працаўнікоў . . . . | 13 „ |
| Чыгуначнікаў . . . . . | 5 „ |
| Мэдыкосанпраца . . . . | 5 „ |

| | | |
|---|---|---|
| Тэкстыльшчыкаў | 3 | „ |
| Дрэваапрацоўшчыкаў | 2 | „ |
| Хімікаў | 2 | „ |
| Цукравікоў, мэталістых і інш. | 9 | „ |

**Па навуковай спэцыяльнасьці.**

| | | |
|---|---|---|
| Студэнтаў Фак. Грамадз. Навук | 18 | асоб |
| „ Фіз.-мат. фак. | 17 | „ |
| „ Мэдфаку | 11 | „ |
| „ Рабфаку | 10 | „ |

**Па губэрнях.**

| | | |
|---|---|---|
| З Меншчыны | 30 | асоб |
| З Віленшчыны | 12 | „ |
| З Горадзеншчыны | 12 | „ |
| З Віцебшчыны | 2 | „ |
| Усяго | 56 | асоб. |

Чыннасьцю зямляцтва кіруе бюро, якое складаецца з трох асоб (І. І. Манцэвіч, В. С. Гушча, М. Т. Іскрык).

За 10 месяцаў, а фактычна за 5, калі выкінуць вакацыі, чыннасьць зямляцтва выяўляецца:

а) у агульных сходах беларускіх зямляцтваў г. Масквы;

б) у агульных сходах мясцовых (6-сьць);

в) у арганізаваньні двох гурткоў па вывучэньню Беларусі (гісторыя Беларусі, географія і экономіка Беларусі).

На агульных сходах заслухоўваліся даклады, з якіх найбольш цікавыя:

1. „Беларускае студэнцтва і яго роля ў культурным будаўніцтве Б. С. С. Р.“

2. „Савецкая Беларусь у новых межах“.

3. Даклад у зьвязку са сьмерцю тов. Леніна.

Гурткі па беларусазнаўству працуюць 1 раз на тыдзень, па $2^1/_2$ гадзіны і ўваходзяць у сетку гурткоў заснаваных пры клюбе 1 МДУ.

Вывучэньне Беларусі студэнцтвам перш за ўсё мае мэтаю падняць агульны ўзровень іх, а таксама для разьвіцьця беларускае сялянскае масы ў кругабег наступных вакацыяў, калі студэнцтва думае ехаць праводзіць практычныя працы.

Аснаўная праца на бліжэйшы час вось якая:

а) зьбіраньне матар'яльных сродкаў для дапамогі сваім сябром, т. што экономічнага грунту зямляцтва ня мае;

б) узьняцьце чыннасьці гурткоў да максімуму;

в) прыцягненьне ў зямляцтва Гомельцаў, Віцебцаў і г. д. з раёнаў, далучаных да Беларусі.

# На белсэктары.

(КУНЗ.)

М. Брытт.

Ужо сем месяцаў, як адчынілі беларускі сэктар пры Комуністычным Унівэрсытэце народаў захаду. Задача сэктару—падрыхтаваць добрых марксіцкіх працаўнікоў для партыйнай і савецкай працы ў Беларусі.

Задача вельмі трудная: каб выканаць яе поўнасьцю, трэба зьвярнуць пытаньне аб тым, хто такія студэнты нашага сэктару, ці будуць з іх добрыя працаўнікі і марксістыя?

Усяго на белсэктары 48 студэнтаў. Па адукацыі яны разьдзелены на два курсы: па 24 таварышы ў кожным—як у падрыхтоўчым таксама і ў першым.

*Па партыйнасьці*: на двух курсах—партыйныя складуюць $68^{3}/_{4}$% з якіх—9 т. зьяўляюцца сябрамі РКСМ і $31^{1}/_{4}$% беспартыйных.

Па курсах: На падрыхтоўчым партыйныя занімаюць $83^{1}/_{3}$% і на першым $54^{1}/_{6}$%.

Усе студэнты на 95 проц. сяляне, але-ж проста з вёскі—толькі 9 чалавек, а ўсе іншыя ўжо некалькі, а якія і шмат гадоў працавалі на партыйнай ці савецкай працы. Шмат з іх нюхала порах грамадзянскай вайны, служыла ў Чырв. арміі. Амаль-што ўсе нашы студэнты практычна з працай ужо знаёмы, самы прыймалі жывы ўдзел на мясцох у партыйна-савецкім будаўніцтве.

Найбольш усяго нашы студэнты з Меншчыны, але-ж ёсьць і з другіх губэрняў. як з Гомельшчыны, Віцебшчыны і нават з закардоннай Беларусі, 9 таварышоў, якія ня выцерпелі панскага зьдзеку і ўцяклі да Савецкай улады.

*Як ідзе учоба?*

Можна сказаць, што ўчоба ідзе добра.

Нашы студэнты ведаюць, што іх прыслалі ў Ун-т за тым, каб найбольш атрымаць ведаў, дый зноў пайсьці працаваць—і хлопцы, як кажуць, «грызуць граніт навукі». Кожны студэнт адчувае, што для яго прыйшоў час ведаў.

— Вучыся, цяпер час наш!—Так кажуць студэнты, капаючыся ў кніжках, каб запоўніць усе недахваты, якія у кожнага маецца шмат.

Ні адна гадзіна не прападае дарэмна—кожны ведае, што вучыцца трэба і трэба вучыцца так, каб усе веды—ведаць з карэньнямі. Бо кожны студэнт наперад ведае, якія пытаньні цяпер на мясцох будуць задаваць рабоча-сялянскія гушчы.

Не здавальняючыся аднэй толькі кляснай працай, кожны студэнт працуе ў 2-х—3 гурткох пры клюбе Ун-ту. У вольную гадзіну пішуць творы для часопісі якая выдаецца Ун-там, самым сэктарам.

К шостым угодкам кастрычніка была выпушчана сэктарам аднадпеўка.

Гэтыя ўжо 7 месяцаў даюць адчуваць, што склад студэнтаў добры, што праз два гады Беларусь будзе мець кадр моцных марксіцкіх дзеячоў, якія прынясуць яскравы імпэт у працу і будуць зьменай ужо струджаных барацьбітоў нашай Савецкай сярмяжнай бацькаўшчыны.

---

# 2-гі Маскоўскі Дзяржаўны Унівэрсытэт.

### Ю. В.

Беларусы ў 2-м МДУ з'арганізаваліся яшчэ з 1921 году. Працавалі над дасьледваньнем Беларусі. Вялі культурна-асьветную працу між сваіх сяброў. Далі ўжо некалькі дактароў, далі двох навуковых працаўнікоў у Беларускі Дзярж. Ун—т. (Былінскі, Фурс). Ёсьць навуковыя працаўнікі з беларусоў і пры 2-м МДУ

Значыцца, была падстава, каб арганізаваць моцнае беларускае зямляцтва. І яно з'арганізавалася. Аж—87 сяброў. Гэта ня жартачкі! 11 сяброў РКП (б), 6 кандыдатаў, 17 комсамольцаў, 53 беспартыйных. Беларусаў—35, жыдоў—45; іншых—7.

Дзякуючы таму, што ў 2-м МДУ ёсьць пэдфак, а значыцца і пэдагогі, праца ідзе, як належыць. Ня кажучы аб тым самым пэдфаку—дзе працуе нават навуковы беларускі гурток пад кіраўніцтвам проф. П. А. Растаргуева,—працуюць гурткі «популярныя». Па ўсіх прадметах беларусазнаўства. Ня варта пералічаць усіх дакладаў, якія прачытаны за гэты год, бо іх вельмі і вельмі шмат.

Даволі адзначыць, што некаторыя таварышы (чатыры) пішуць падручнікі для беларускіх школ, пішуць навуковыя працы. Ідзе колектыўная праца па складаньню хрыстаматыі па гісторыі беларускае мовы (для вышэйшых школ) і дыялектолёгічнага слоўніка беларускае мовы (пад кіраўніцтвам проф. Растаргуева).

Шмат дапамагае і тое, што гэты самы профэсор чытае ў 2-м МДУ курс беларускае мовы і гісторыі літаратуры, на які, апрача, сваіх студэнтаў беларусоў, прыходзяць студэнты і з іншых вышэйшых школ.

На каляды сябры зямляцтва скарысталі свае вакацыі на запісваньне новых словаў, песьняў, казак на абшары Гомельшчыны.

Цяпер гэта ўсё апрацоўваецца і ўзбагаціць беларускую навуковую літаратуру.

Усёткі, сябры зямляцтва працаю незадаволены.—Малыя вынікі. Мо' гэта таму, што вялікая самакрытыка?

Як-бы там ні было, але праца павялічыцца, пашырыцца яшчэ больш.

Спадзяемся, што нам пажадаюць посьпеху таварышы па працы, а ў першую чаргу тыя, што самі нічога ня робяць.

# Інстытут інжэнэраў Шляхаў Зносін.

## К. М.

Зямляцтва злучае ў сваіх шэрагах 44 чалавекі. 15 сяброў РКП(б) і кандыдатаў і 4 комсамольцы; 25 беспартыйных. Беларусаў—35, жыдоў—9. Трэба адзначыць, што наша зямляцтва, як беларускае студэнцкае зямляцтва ў Маскве, заснавалася самым першым. Сябры зямляцтва распачалі працу ня толькі між сваіх сяброў, але выявілі сябе і як організатары зямляцтваў пры іншых вышэйшых школах. (М. Кіеня і г. д).

Ад самага пачатку заложаны і гурткі па беларусазнаўству. У гуртках па гісторыі і географіі Баларусі штотыдзень выступаюць з дакладамі сябры зямляцтва. Кіраўнікам гуртка па беларускай мове запрошаны і працуе студэнт Літаратурнага інстытуту Ул. Дубоўка. Са сваіх дакладчыкаў вялікаю популярнасьцю карыстаюцца т. т. Мушкацін і Доўгэр.

Ня спыняючыся на чыста навуковай працы, зямляцтва рыхтуе ў інстытуцкім маштабе вялікі беларускі вечар (песьня, дэклямацыя вершаў).

У часе вакацыяў (на калядах) сябры зямляцтва працавалі ў вёсках як дакладчыкі па справах політычных і культурна-асьветных. Аднаму таварышу нашым Цэнтральным Бюро Беларускіх Зямляцтваў прысуждана III прэмія за гэту працу (т. Доўгэр).

Усё гэта разам узятае сьведчыць, што мы прыдзем на Беларусь добра падрыхтованымі пасьля таго, як скончым курс навукі ў Інстытуце.

---

# Інстытут Народнае Гаспадаркі імя К. Маркса.

## Б. Б.

Народная гаспадарка, яе адраджэньне на Беларусі пасьля войнаў, окупацыяў і г. д.,—патрабуе шмат і шмат здольных, добра падрыхтаваных працаўнікоў. А якая-ж вышэйшая школа можа даць гэтую падрыхтоўку, калі не Інстытут Карла Маркса? Дык ня дзіва, што і тут адраджэнцаў Беларусі ёсьць даволі—44 таварышы.

Вядома, што і нашы сябры не засталіся ззаду ад другіх беларусаў у Маскве, а ўтварылі беларускае зямляцтва.

Які яго склад?—

Партыйных, кандыдатаў і комсамольцаў —19, беспартыйных—

25, сялян—23, рабочых—10, інтэлігэнтаў—11. Дзеля таго, што Гомельцы і Віцебцы яшчэ з намі ня злучыліся—большасьць складаюць Менчукі (37). Гарадзенцаў менш (5), іншых зусім мала (2). Водлуг нацыянальнасьці падзел наступны—беларусаў 20, жыдоў—24.

Як ідзе праца?—Сказаць адразу цяжка. Мусіць—ня кепска. Перш за ўсё—наша зямляцтва дало некалькі організатараў у агульна-студэнцкім беларускім маштабе (Крыцкі, Бурштэйн, Краснапёрка). Мае і добрых сваіх. Гурткі,—працуюць на ўсе застаўкі. Гісторыя і географія Беларусі—займаюць першае месца. Гэта і зразумела, тым больш зразумелы экономічны ухіл пры вывучэньні географіі. Што тычыцца мовы—дык так сама пакрысе кратаемся. Спадзяемся, што да вясны будзем ведаць нішто. У гэтым напрамку патрабуецца толькі адшліфоўка, бо большасьць—з вёскі, гаворыць пабеларуску як трэба. Але не задаволена.

— Хочам гаварыць і палітаратурнаму. Ну, і «жараць», як той казаў.

Прабавалі складаць і свой хор. Але не наладзілася справа, бо галасы ад лабораторнага паветра папсаваліся. Тут—дык лякарства няма.

Вось і ўсё. Адчуваем самі—мала. Ідзе вясна. Хоць яна нясе за сабою час экзаменаў, але прынясе бадзёрасьць, імпэт. Вядома—вясна. Гэта зварухне нас яшчэ больш і на практычныя працы паедзем добра падрыхтаваныя.

Ці-ж ня праўда, сябры!?

# Беларускае зямляцтва пры Маскоўскім Каморніцкім Інстытуце.

Е. Т.

Пытаньне аб утварэньні зямляцтва ўзьнікала ў нас у мінулым годзе. Ініцыятарам утварэньня зямляцтва быў прачытаны статут Беларускае культурна-навуковае асоцыяцыі пры Пятроўскай С-г. акадэміі.

„Што торба—то ня мех, што праўда—то ня грэх"—статут быў з гнілой падставай, у некаторых яго артыкулах адчуваліся, хоць і туманна, ноткі шовінізму, а апрача таго—ён задаваўся занадта шырокімі мэтамі ў чыста навуковых адносінах. Некаторыя з нас з усьмешкаю казалі—„навошта з мыла бурбалкі пускаць, няўжо людзі яшчэ ня ведаюць, што яны жывуць у савецкае фэдэрацыі, а не на ветаху. Трэба прызнацца, што былі і такія, якія агітавалі за вызначаныя статутам мэты.На вялікае нашае шчасьце сход і быў усяго толькі адзін раз. На другі заклік на сход амаль ніхто ня прышоў.

Трэба падзякаваць Цэнтральнае Бюро беларускіх зямляцтваў, якое ўгледзела тую гніль, тую атруту, якія прайшлі-б у зямляцтвы, каб яны залажыліся па прынцыпу Пятроўскай Асоцыяцыі. Трэба было перайсьці да стварэньня новых формаў організацыі, з чыста клясавым падборам сяброў, адпавядаючых у палітычных адносінах пачэснаму найменьню студэнта савецкае вышэйшае школы. Гэта і было зроблена больш энэргічным таварышам, які зараз знаходзіцца ў ЦБ. На яго заклік сту-

дэнты-беларусы Вуз'аў адгукнуліся як адзін, адгукнуўся і наш інстытут.

Водлуг ініцыятывы некаторых таварышаў быў скліканы агульны сход дзеля выключна організацыйнае мэты. Прачыталі статут апрацаваны ЦБ. Апошні не спаткаў спрэчак. Выбранаму бюро было даручана весьці далейшую працу.

На першых кроках зямляцтва, як і кожная маладая організацыя, рабіла памылкі, але цяпер праца наладзілася. Таварышы,—сябры зямляцтва, акуратна бываюць на агульных сходах (што тыдзень). На сходах чытаюцца даклады па гісторыі і географіі Беларусі, чым даволі выяўляецца самадзейнасьць студэнцтва. Усяго ў зямляцтве лічыцца 26 чалавек.

## Рабфак імя Сьвярдлова.

Б. Ф—н.

Беларускае зямляцтва пры ўзорна-паказальным рабфаку імя Я. М. Сьвярдлова з'організавалася ў кастрычніку 1923 г.

На першым сходзе прадстаўнік ЦБ БЗ тав. Кіеня зрабіў даклад аб мэтах і задачах беларускага студэнцкага зямляцтва. Сход пастанавіў організаваць зямляцтва і пачаць сыстэматычную культурную працу між яго сяброў у пытаньні беларусазнаўства, каб гэта дало магчымасьць падрыхтавацца да працы на Беларусі.

У гэты час зямляцтва налічвае ў сваіх шэрагах 27 сяброў, у тым ліку трох прымацаваных да яго студэнтаў Вэтэрынарнага Інстытуту. Соцыяльны склад зямляцтва вось які: рабочых 12, сялян—13, служачых—2. Водлуг партыйнасьці—сяброў РКП (б)—17, кандыдатаў—2 сяброў РКСМ—4 і беспартыйных—4.

Адбыліся тры агульныя сходы. На адным з іх заслухалі даклад тав. Хвядчэні па гісторыі Беларусі.

Больш дакладаў зрабіць ня прышлося, бо шмат працавалі ў зьвязку з партыйнай дыскусыяй,сьмерцьцю Ільліча і недахватам літаратуры.

Спадзяемся, што апошняе—наладзіцца.

---

## У Маскоўскай Горнай Акадэміі.

Студэнт Зэльдзін.

Маскоўская Горная Акадэмія—дзіцянё рэволюцыі. Організована яна ў 1919 годзе. Мэта—залажыць у чырвонай сталіцы цэнтр па ўзьведках, дасьледваньню і эксплёатаваньню нязьлічаных прыродных багацьцяў, расьсеяных па ўсяму Саюзу ССР і дзеля гэтага МГА мае агульнасаюзнае значэньне.

У прыватнасьці для Беларусі, з яе недасьледаванымі нетрамі, багатымі залежамі ўсялякае гліны, вапнякоў і г. д., неабхватнымі тарфавымі балотамі і іншымі багацьцямі—будучыя чырвоныя геолёгі і гарнякі знойдуць шырокае поле для ўжываньня сваіх ведаў.

Нядаўна ў нас пры Выканаўчым Бюро професыянальных сэкцыяў арганізавалася беларускае зямляцтва, якое налічвае пакуль-што 25 чалавек. Хоць студэнтаў беларусаў у нас куды больш, але многія таварашы, дзякуючы перагружанасьці працаю ў іншых акадэмічных організацыях, пазбаўлены магчымасьці быць актыўнымі сябрамі зямляцтва. Трэба адзначыць, што зямляцтва з першых-жа дзён свайго організаваньня паставіла сабе зусім конкрэтныя задачы. На агульным сходзе пастаноўлена што-тыдзень у нядзелю ладзіць чыткі-гутаркі на тэмы па гісторыі, географіі і гісторыі грамадзянскага руху на Беларусі.

# Інститут Дзіцячае Дэфэктыўнасьці.

М. Альфяровіч.

У зямляцтве ў нас на 20/II-24 году лічыцца 30 сяброў. Сходкі склікаюцца адзін раз на тыдзень, на якія прыходзіць сяброў 20-25, якія і лічацца актыўнымі сябрамі зямляцтва. Яны па вядомаму пляну робяць па чарзе даклады з гісторыі, географіі і літаратуры. Так, напр., у апошні раз чытаў даклад т. Я. Г. Шэйпак аб гісторыі Беларусі. Разьбіралі поэму М. Чарота „Босыя на вогнішчы.“

Апрача гуртка беларусазнаўства—працуе драматычны гурток. Апошні апрацаваў да пастаноўкі п'есу „Зьбянтэжаны Саўка“ і ў недалёкім часе паставіць яе.

# Нашы заграніцай.

## Н. Асіповіч.

Калі ў Маскве сэрцы Савецкага Саюзу Комуністычнага Інтэрнацыяналу ёсьць наш, чырвоны Інтэрнацыянал, нашае чырвонае моладзі і пролетарскага студэнцтва, то за межамі акцябрскіх рэспублік—у Бэрліне, Празе, Парыжу, Вене, Белградзе, Загрэбе, Зофіі, Константынопалю і нават у Амэрыцы—распыліліся белыя птушкі маміны сынкі—чорнай і белай эміграцыі.

Усё тое, што выкінулі Савецкія рэспублікі, як нягоднае, паразытычнае і контр-рээволюцыйнае—разыйшлося і распаўзлося па белу сьвету, каб адтуль „уздохамі і ахамі“ балець за народ жывучы, за тыя агрызкі, якія кідаюць ім паны, буржуі і капіталістыя—ярыя ненавісьнікі Савецкай Улады.

Я кажу аб тым эміграцкім студэнцтве—якое пакінуло народ і атрымлівае дапамогу розных контр-рэволюцыйных цэнтраў, сталюючы ідэолёгію іх.

Якая-то ідэолёгія гэтых панічоў і „калег“? А вось якая. Яны з'організавалі „ единый фронт“ і ў аснову якога палажылі: няпрыняцьце Акцябрскай рэволюцыі, няпрымірымасьць да Савецкай, Улады, гордасьць і рызыка сваім эміграцкім жыцьцём, вернасьць старым дэмократычным традыцыям расійскага студэнцтва, „аполітычнасьць“ і г. д.

Адгэтуль іх правадырамі зьяўляюцца такія асобы, як Врангель, Маркаў II, Еўлогій, Махно, Балаховіч і іншыя пэрлы контр-рэволюцыі.

Вось чаму расійскія і беларускія студэнты ў Празе—вельмі набожны народ. Іх цікавіць становішча праваслаўнай цэркві, у іх ёсьць царкоўныя хоры і г. д. Яны моцна трымаюць сувязь з папамі і ксяндзамі, бо Хрыстова-дэмократычнай ідэолёгіяй прыкрываюць сваё шляхецтва, убоства, нацыянальны шовінізм і патрыотызм.

Нам з шырокіх даляў савецкага разьвіцьця і змаганьня брыдка глядзець, як поўзаюць у нагах людзі, як яны блізарукі і ня відзяць таго, што яны зьяўляюцца сьляпым аружжам у пруткіх белых гэнэралаў яшчэ марачых аб „вызваленьні“ народаў ад захватчыкаў улады.

Ведайце, панічы і калегі—што вы тормазы рэволюцыі, бо вам нельга спадзявацца ні пры якіх умовах, што народ вас прыйме да сябе.

Вы прадаўшыся за грошы і пахлёбку замежным панам—сустрэнеце ў працоўных масах ня сымпатыі, а гадлівае пачуцьцё. Вы юды, якія прадалі ня толькі свой гонар, але і інтарэсы сваі і сваіх бацькоў.

Ня вам сталяваць будучыну народу, бо вы політычныя блудні,

у магчымасьці якіх толькі гаўкаць з-падваротні і ляскаць сваім языком у „Днях“, „Рулю“ абкідваючы гразёй сьветлыя імкненьні пролетарскага студэнцтва Савецкай Беларусі.

Калі гістарычнай доляй вам суджана пры жыцьці—сьмярдзець, то выбачайце, панічкі і „калегі“, што вам не па дарозе з намі. Нашы шляхі разыходзяцца. І калі вы хочаце быць узапраўды людзьмі, то парвеце вашыя ланцугі буржуазнай цемры-гіпнозу, адмяжуйцеся ад контррэволюцыйных праў і разбудзеце сярод саміх рэволюцыйны дух, бязякого вам ня выйсьці на сьветлы шлях вашага жыцьця.

І калі гэта яшчэ ня позна зрабіць—то сьпяшайцеся зрабіць, бо рэволюцыя не чакае і ўсе тормазы і сьмяцьцё на сваёй дарозе скідвае ў сьмяцьцёвую яму гісторыі.

Не чапляйцеся за „Смену вех“ ці за „аполітычнасьць“, а пакажэце народу свой клясавы лік і раз назаўсёды скажэце сабе „хто я“? Калі паніч і „калега“, то станце ў стан ворагаў працоўных Савецкай Беларусі, а калі ў вас прачнецца дух і клясавае сазнаньне вашых бацькоў сялян і рабочых, сынамі якіх многія з вас ёсьць, то ня бойцеся прызнацца і адкрыта заявіць—што вы рвецё з белай эміграцыяй і сваёй далейшай працай хочаце даказаць у жыцьцю, што інтарэсы вашы не расходзяцца з мэтамі і імкненьнем рабоча-сялянскага, пролетарскага студэнцтва Савецкай Беларусі.

Досыць забаўляцца ў бірулькі! Пара дапамагчы тым 3—4 мільёнам працоўных на тэрыторыі Заходняй Беларусі, якія знайходзяцца пад пятой вяльможнага пана Пілсудзкага і чакаюць не дачакаюцца, калі настане той жаданы момант аб'яднаньня з Савецкай Беларусьсю. Яна зьяўляецца лепшым адзнакам таго, як Савецкая Ўлада не на словах, а ў жыцьці праводзіць нацыянальнае пытаньне. Нават пасьля цяжкіх войн разбураная і бедная Беларусь хутка паднялася на свае ногі і будуе ня толькі сваю савецкаю дзяржаўнасьць, але і падымае ролі вытворчых і праізвадковых магчымасьцей, на грунце змаганьня з цемрай народу і ворагамі яго.

Панічы і калегі, запытайцеся ў сябе: „а што мы зрабілі дзеля таго, каб замучаную Заходнюю Беларусь вызваліць ад польскай шляхты і прылучыць яе да Савецкай Беларусі“?

Калі вы яшчэ гэтага не зрабілі—то рабеце, бо гісторыя не чакае і час працуе не за вас, а за нас.

# Студэнт.

Ул. Дубоўка.

*Пасьвячаю Міхасю Марозу.*

I.

Пачакай, хай галосіць гармонік
і шалее апантаная карчма.
Я ўспомніў пра тое сягоньня,
што і ў песьні нават няма.

Самы просты, звычайны пачатак:
арадзіўся адзін чалавек.
Не страсанулася страха над хатай,
не спынілася шапаценьне ў траве.

Падрастаў, калыхаў маленькіх
і на пасту ужо ганяў.
Пуга, торбачка, гразь па калені:
адпачынак на балоце, ля вагня.

А затым—вясковая школа,
а затым—жыцьцё грунём.
І такое,—беларускае кажа слова,—
на кані і пад канём.

І казаў ён сваёй матулі:
прыйдзе некалі гэткі дзень,
калі *праца* наўкол запануе,
калі будзе *нам* пожар ірдзець.

А пакуль—за адну залатоўку
на работу да пана хадзіў.
Лёс ня песьціў яго, ня соўкаў.
Гэта ўсё—чалавек адзін.

II.

Вось і Люты. Кастрычнік—навалай.
Час змаганьня, вялікі час.
Жыцьцё нанова кавалі.
Чалавек той радзіўся яшчэ раз.

Чуў ён пра войны, чуў пра краіны,
сьніў калісьці прыгожыя сны.
Ведаў, што прыдзецца вёску кінуць,
хоць у бацькоў ён быў адзін.

Толькі ня даў-бы веры нікому,
нават, каб дзед паказаў на ваду,—
што яму, жабраку такому,
унівэрсытэты асьвету дадуць.

Кончылі войны, кончылі раптам.
Ён ваяваў, ён перамог.
Здолеў да Азіі дзікай патрапіць,
толькі ня здолеў вярнуцца дамоў.—

Машына грукоча-ляскоча па рэльсах,
быццам кіі аб паркан.
Гэта дзяцюк у Маскву загарэўся.
Шлях: Менск—Самарканд.

Дзе ты, матуля, дзе ты, старая?
Пэўна чакаеш—вернецца сын?
Гэта ты на шляхі паглядаеш...
Не, не палічыш ты дзён і гадзін...

III.

Папытайся, чаму на балоце
стала чапля на аднэй назе?
Што пільнуе яна і сочыць,
калі ў вочы туман паўзе?

Мусіць сон высявае на вёскі,
спавівае пад стрэхі журбой.
Часам лямант, а часам лёскат
з-закардоньня прыймае бор...

— Ты, старая, твой сын комуністы,—
ты, мужычка, арадзіла яго...
Пастарунак панскі чысты—
беларуску вясковую білі нагой...

— Сынку, сынку... Ня чуеш, далёкі...
Каласочак... канаю... даруй...
Спаганяў яшчэ злосьць ненасытны лёкай,
а ўжо вочы дакорна пазіралі ўгару...

— Чую! Водгульлем плача сасоньнік,
дробным шротам жаль цячэ.
Вестка, што Ленін ужо пакойнік,—
толькі і была мне цяжэй.

— Буду помніць, пакуль сканаю,
здрыганецца некалі ўся старана.
Сэрца,—мацней галасі над краем,
не маўчы, як парваная струна...

IV.

Не зважай, хай галосіць гармонік
і шалее апантаная карчма.
Я успомніў пра тое сягоньня,
што і ў песьні нават няма.

Самы просты й звычайны пачатак
і таксама звычайны канец.
Не траслася страха над хатай,
калі жвір сакатаў па труне...

Вецер, вецер, чаго ты скавычаш?
Вёска, вёска, чаму маўчыш?
Дзе твой дзеўся спрадвечны звычай
галасіць на ўспамін душы?

Ці апрыкрылі песьні старыя,
ці сьпяваць аб усіх, не аднэй?
Новыя словы, новыя рытмы
поўнай жменяй жыцьцё дае...

Годзе суму, жалобы годзе,—
прыйдзе хутка гэткі дзень,—
калі вораг прыпынку сабе ня знойдзе
ні на зямлі, ні на вадзе...

. . . . . . . . . . . . . . . . . . . .

Сын цяпер у школе вялікай,
трэці раз радзіўся на сьвет.
Сотняй зваці яго, тысячай клікаць,
міліёны ідуць усьлед...

Масква.

---

# Імкненьне.

Л. Родзевіч.

Вякі вякоў прайшло, ад арадзін.
А колькі-ж імянін!
Апошнія спраўлялі пролетары.
Тады зямлю аблізвалі пажары,
а гэніяў, волатаў бліскучых
спраўляліся хаўтуры,
а перагной старой культуры
быў звалены ў кучы—
і тлусьціўся аблог.
А бог
уцёк з зямлі. А неба—
бы дзірка ў мосьце трэба.
А ўсе працаўнікі зямлі
на фабрыках, ральлі,
насіўшыя найменьні
міліёны,
што за працу мелі
каменьне
і елі
няволю, зьдзекі, забабоны,—
паўсталі, вырасьлі, запелі,
яшчэ больш есьці захацелі.

Галодны волат, волат працы,
ён грозны, дуж, ён мсьцівы—
пашоў раскідаваць палацы,
шукаючы нажывы.
—Хоць раз пад'есьці бы да сыці.
І быў ён спрыцен:
за рогі зрэпіў сваю мэту,
каля пажару ўсяго сьвету
пёк на штыху буржуя-пана.

Ад перамогі, болю раны
ён трыумфуе, яму п'яна.

Тады рабочыя, сяляне
ўстанавілі ўладаньне
працы
заўсёды,
усюды,

усім
і часам тым
рашылі між машын
урэшце жыць без імянін,
а звацца заўсёды,
усюды,
усім
людзі.

. . . . . . . . . . . . . . . . . .

Ніхто ня ведае, што будзе.
А будзе тое, што мы хочам;
інакш бы вочы
таго-ж дакучлівага „хочаш“
як у прадсьмертніка блукалі—
жудка, бяз мэты і бяз далі.

. . . . . . . . . . . . . . . . . .

Ахарошылася зямля ўраджаямі,
пажарышчы і руіны
захінула нівамі, гаямі.
Загулі гарады і машыны.
Молат выкаваў шчасьце сталёвае.
Серп нажаў сыці аж скоптарам.
Усё сучаснае стала здаровае.
Гора там,
пад прымусам моцы рабочае,
ўступіла пасад неахвоча
дабрадзею шчодрамуноваму,
дабрабыту здароваму.
Тады мудрасьць натхненьнем міліёнаў
уздыхнула, ўзрасла, сяўцом сонца
стала для вуліц, загонаў;
наперад бяз конца
павяла ў бязьмежнасьць часу, прастору,
хвалюючы морамі зораў,
дробячы дроб электронаў.
Як бліскучым лянцэтам
з быцьця перад сьветам
дабыла плод жыцьцёдаўчы,
адпёрла ключом усёзнаўчым
у законе натуры,
у шуме-музыцы машын
заклік усім, усім—
да штурму, да буры,
да нябытых часін.

# Пяяў тады я, калі сонца.

Міхась Дуброўскі.

Пяяў тады я, калі сонца,
На гумнах вылізаўшы ток
Мятлой і пятрамі услонца,
Іскрыла золатам сярпок.

Я гаманіў, калі ўздыхала
На моры хваляй сьцень грамад
І люльку з лялькай калыхала,
Як грэх карысьці чорнай кат.

Драмаў мой статак ля крыніцы
На стайні ў барадзе лясоў...
Зьляталіся з балот царыцы
Мужыцкіх песень гужам соў.

Рагтала неба мне, а хмары
Вужакай шчэннаю паўзьлі,
Давіўся ваўкалак ў амшарах
Дабром магіл,—ваўкі гулі...

Ў лагох ліліся смутай коскі,
Каток бяз дзёгцю якатаў,
Смактала праца мозаг вёскі,
Тады я стогнамі пяяў...

І чуў мужык, як корч нядолі
Пагогаць сэрца адпускаў,
Ізноў хутчэй на здохлым полі
Сільля слабоды ён шукаў...

Масква
9/1

# Пакой № 184.

**Л. Родзевіч.**

Масква. „Общежитие“ аднаго з вузаў. Пакой № 184. На дзьвярох чытаем:

*Сьпіс студэнтаў.*

1. Грыцэнко А. П.
2. Галкін В. А.
3. Дзяруга В. Д.
4. Дзядзюлевіч С. М.
5. Енткоўскі К. Т.
6. Кульман Р. А.
7. Наміхадзэ К. К.
8. Рубін Х. Б.
9. Рабчыкоў П. І.
10. Шэрэметьев Б. І.
11. Чыкін Д. А.

А на аддзельнай картачцы:

| |
|---|
| Час працы ад 5—8 і 9 — 12 г. |
| Без дачыненьня ня швэндацца. |

Чытаючы прозьвішчы прадстаўляеш сабе цэлы інтэрнацыянал: украінец, велікарос, беларус, паляк, латыш і т. д.

Масква—кузьня новага жыцьця дае прыстанішча ўсім, хто хоча і ў каго моцныя зубы, каб грызьці граніт навукі. А такіх у СССР хапае. Кожны працоўны разумее свае абавязкі, разумее, што з амяртвеўшых рук буржуазіі трэба вырваць штандар навукі, а пад іх хворы быт, які яшчэ там-сям туляецца па кутох, трэба падлажыць дынаміт пролетарскай ідэолёгіі.

„Усё ўмець, усё знаць!“ вось лёзунг гэтых ваяк фабрык, ральлі і ваенных фронтаў.

---

Ня гледзячы на тое, што кожны дзень перагружаны, ацяжараны марксізмам, хіміяй, матэматыкай і іншымі стопудовымі „гранітамі“, аднак дні гэтыя мігцяць, бы сьпіцы ў малатарні. Не здалееш успомніць, якая дата і аўторак ці пятніца, як ужо ў вушох зьвініць званок на 8-ую гадзіну новага дня і хоцькі-ня-хоцькі а „паўстань з навукай пабратаны, ўвесь сьвет «гранітаў» грызуны“.

Устаюць усе з песьнямі, выкрыківаюць лёзунгі, цытуюць мудрыя сказы і кожны на сваёй мове, і кожны хоча, каб яго чулі і дзеля таго стараецца ўсіх перакрычаць. Тут ужо ніхто ня ўлежыць—мёртвы ўстане.

Збавіўшы такім чынам да належнага ўзроўня сваю энэргію, якая напоўніла здаровыя організмы за ноч, студэнты пакрыху супакойваюцца. Глядзіш—адзін-другі бяжыць бяз нічога, як маці радзіла, пад пырск у карыдор і там абмываецца халоднай, як лёд, вадой. Вярнуўшыся, жыва аціраецца. Мускулістае цела аж гарыць, кроў аж пырскае! Любота! Апрануўшы свае сьвет відаўшыя аздобленыя латамі вопраткі, студэнты неяк адразу ўрачыста заціхаюць—гэта кожны з іх сваімі грубымі працоўнымі рукамі датаркнуўся да кніжак, да гэтых яснадаўчых крыніц, з якіх хто нап'ецца, робіцца волатам веды, навукі.

Кніжка ў нашыя часы, у нашага брата перажывае залатую пару. Што яе шануюць, як сьвятасьць, аддаюць апошнія грошы і шукаюць днём з агнём, дык гэтую паўсямесную праўду нечага паўтараць. Кніжка дажыла да выяўленьня свайго сапраўднага назначэньня. Яна стала дабыткам усіх тых, каму патрэбна навука не для гузікаў бліскучых, не для сьмертаноснага аружжа, пышнай роскашы, а для дабрабыту ўсіх працоўных, для замацаваньня волі, узросту веды. Кніжка стала популярнай і ўсім даступнай—яна ўжо не плясьнее па бібліатэках у скураных вокладках з залатымі літарамі на магунёвых паліцах люстраных шафаў.

Вялікая сквапнасьць да навукі ў новых прыяцеляў кніжкі не астаўляюць у яе нічога нявыясьненага, неразгаданага—вычэрпываюць усё да дна.

Сабраўшы патрэбныя кніжкі, студэнты йдуць сьнедаць, а там і на лекцыю.

Пакой № 184 пусьцее. Сьвежае марознае паветра сьпяшыць праз адчыненую фортачку выцісьнуць ня толькі кіслае паветра ночы, але і цяпло, каб прышоўшыя студэнты сказалі:

— Б-р-р-р...

Скажуць, але не пакрыўдзяцца, бо хай сабе будзе халадней, але каб чыстае паветра, аб гэтым кажа і статут пакою. Той-жа статут патрабуе, каб утрымліваць парадак, але дзеля таго, што слова парадак мае даволі шырокае талкаваньне, а рэчы папаўшы ў пакой № 184 згубілі сваю ўласнасьць і фэтышызм, дык часта бывае так, што рэчы не карыстаюцца асаблівай пашанотай. Вось з-пад ложка выглядае аблуплены нос стаптанага бота, запылены чамадан, а пасьцель як узбушаванае мора. Край кваціставй дыаграмы адклеіўся ад сьцяны і павіснуў безнадзейна. Але што гэта над кожным ложкам... няўжо абразікі, усе сьценкі абвешаны... Не, гэта партрэты Леніна, Маркса, Троцкага, гэта стыхійная цяга да „свайго", якое ўзглаўляюць вось гэтыя тры кіты новай будучыны, гэта дае яркае прадстаўленьне аб тых, хто старанна прымацоўваў гэтыя партрэты ня толькі на сьценках, але і на грудзях на шпільках, жэтонах, мэдаліках; гэта спадчына старога быту, аб якім пяецца: „Ніхто ня дасьць самохаць волі—ні бог, ні цар, не багатыр". А з другога боку гэта доказ, што яны хочуць зьліцца, зьяднацца, набракнуць з вучэньнем і з вучыцелямі вонкавымі і ўнутранымі шляхамі.

А вось на стале, які стаіць сярод пакою, вядуць згоднае суседзтва цэлы інтэрнацыянал розных прылад ад featured ужытку. Ручкі да пісаньня, пагнутыя, сплямленыя, абрэзаныя; пер'я даўно вышаўшыя з ужытку; алоўкі featured ўзросту, бутэлечкі з чарнілами ўсялякай якасьці

і колераў, разумеецца, найбольш чырвонага; лінейка, якая дае ўсякую лінію, толькі няроўную; некалькі кубачкаў з вадой. бяз нічога і з пылам; прэс-пап'е без прапускной, зламаны грэбень, поюнутае люстэрка і т. п.

Наогул пакой ня носіць сьлядоў т. зв. сямейнага ўюту, у які тата і мама ўкладаюць усё сваё жыцьцё. Тут жывуць людзі з больш шырокімі інтарэсамі—яны працаўнікі ўюту ўсяго сьвету.

Пераваліла за поўдзень. Студэнты тупаючы і хухаючы сходзяцца ў свой прыпынак.

— Хлопцы!—крычыць адзін з іх, скідаючы дзіравы бот, каб паглядзець, ці не адмарозіў пальцы.—Хлопцы! Я прапаную выказаць Дзядзюлевічу падзяку за яго сягонешні даклад аб фэтышызьме тавару.

— Назначыць яго начальнікам рэволюцыі!

— Падняць яго на ўра!

— На ўра! Пагойдаць!

— Цяплей будзе! Сагрэемся!

— Жані!

І Дзядзюлевіч разоў пяць зрабіў у паветры сьмяшныя выкрутасы.

— Кіньце яго—глупствам займаецеся! Гэта адрыжка старога.

— Хлопцы на ўра і адчапенца!

Пярэчыць бедны, непаддаецца, але не ўстаяў супроць грамады. Гойдалі яго разам з тым, за што ён толькі не чапляўся. Сьмех, жарты. Сярод гутаркі неўзнаку пераходзяць на палітычныя тэмы, да аналізу, ацэнкі апошніх падзей. Марксыцкі аршын пашоў на ўжытак.

Спрэчка.

— Праўда, ты мерыш марксыцкім аршынам, але мерыш ня сем, а адзін раз, і дзеля таго твая думка выходзіць нейкая куртатая, недаробленая...

Усе падобныя спрэчкі канчаюцца абавязкова аб спосабе падняцьця сусьветнай рэволюцыі—гэта нявычэрпная тэма.

Б'е пятая. гадзіна—ніхто ня чуе. Спрэчка ў самым разгары.

Ужо панская Польшча перакулена, ужо форсіраваным маршам пяройдзена Нямеччына, трашчыць Францыя, а адзін адважнік наважыўся пераступіць Ламанш, як тут раптам рэзкі стукат алоўка аб стол усіх уціхамірыў. Сядаюць за стол, панікаюць над кніжкамі. Вучыцца— дык лёгка, бо ёсьць ахвота, але вось веда ня хоча паддавацца—замыславатая навука, цьвёрды граніт...

Не адзін успамінае свой плуг, машыну, ці варштат. Там працаваў пяючы. А тут... вунь у трэцьцякурсьніка сівыя валасы, хоць сам яшчэ юнак.

Але нічагусенькі! Гэта апошні фронт, а там глядзь—і „кухарка зможа ўпраўляць гаспадарствам“.

— Курыць у пакоі... ідзі ў карыдор.

— А праўда, забыўся. Ня тое забу...

— Ссс... Ціха.

Зноў скрыпяць алоўкі, шуршыць папера.

Увайшла студэнтка з пакою № 185 і просіць пазычыць політэкономію.

— Чаму ты сягоньня падобна да маткі боскай?

— А ты як поп запусьціў патлы.

І студэнтка ўчарэпілася за курчавую галаву студэнта.

Тузаніна. Сьмех.

Стукат алоўка.

Студэнтка бярэ кнігу і на цыпачках выходзіць.

Супакой установлены. Няўзнаку ляціць час, калі ён дараг, калі яго не хапае, калі працу некалькі месяцаў трэба ўціснуць у некалькі гадзін. Лектар па гісторыі культуры кажа: Як я вучыўся—дык на Рым патраціў паўгода, а вам згодна програмы трэба прайсьці ў дзьве-тры гадзіны. Дык рашайце, можа...

— Нічагусенькі!

— Жані Рым!

І трупехлы целам і душой Рым пад націскам новага падходу, у якім *сьвядомасьць вынікае з быцьця*, лёгка раскрывае свае заплутаныя падзеі. Каб толькі здалець прачытаць!

Ад 8 да 9 гадзіны перадышка - ідуць вячэраць. Пасьля напружанай працы расходзяцца, як хмельныя, задуманыя. Той ці іншы вяртаецца па шапку, галёшы ці што другое. Забываюцца.

На стале—поле бітвы паміж мазгамі і кніжкамі. Ручкі з чырвонымі і цёмнымі сьлядамі, пакусаныя канцы алаўкоў—аружжа і сьведкі трудных баёў. Шмат афяр: 189, 97, 13, 153—гэта прачытаныя страніцы ляжаць, бы сжатыя гоні, бы краскі, з якіх зьляцела пчолка. Запісаныя ўдоўж і поперак шпаргалкі—поле засеянае і пабаранаванае. Старана апрацавана, будзе добры ўраджай!

Па 9 гадзіне студэнты зноў множацца і замацоўваюць веду. Некалькі ваякаў выбыла з строю: пайшлі ці ў тэатр, ці ў лазьню, ці на лекцыю якога-небудзь з правадыроў новых дум, новых людзей... Той, хто астаўся, чым далей, тым больш слабее, паддаецца, лістуе кнігу—ці далёка канец, ёрзае на месцы... Кніжка перамагае.

— Чакайце, то-ж я забыўся закурыць!

— Я прапаную курцом кінуць курыць. Час і партыя патрабуе здаровых, дужых...

— Прапазыцыя прынімаецца.

— Але не выпаўняецца.

— Гніляк! Са старога матар'ялу ты зьлеплены.

— Не са старога, а з ужыткаванага: стаптаўся на фронтах, перагарэў на сходках.

— Амэрыку адкрыў.

Не ляжаў і я на печцы.

— Таварышы, ёсьць новая прапазыцыя: спыніць спрэчкі і не рабіць таго другому, што табе ня міла.

Праходзіць гадзіна-другая напружанай працы мазгоў.

— Хлопцы, хто баіцца сівых валасоў—далучайцеся да мяне.

— Уношу дабаўленьне: і хто хоча чытаць газэты.

— Уношу папраўку: ня хоча, а мусіць!

— Рана яшчэ!

— Лекцыі важней!

— На галасаваньне!

Большасьцяй галасоў парашылі спыніць заняткі і прыступіць да чытаньня газэты.

— Наміхадзэ, жані! Твая чарга.

— Толькі, душа мой, не перакладай на сваю мову.

— Велыколэпно.

Пасьля кожнага артыкулу маленькі абмен думак і вывад. Не марудзяць, бо ўжо позна. Падканец чытаньня некаторыя распрануліся і ляжаць ужо ў ложках.

Апошні кладзецца Кульман.

— Кульман, чаму ты заўсёды распранаешся да Адама?

— Адным выстралам забіваю трох зайцоў.

— Ну?

— Ашчаднасьць бялізны, гігіенічнасьць і збаўленьне ад align="left"розн‌ай гнюсі.

— Худыя-ж, брат, твае зайцы.

Маўчанка.

— Худыя, але затое тры. А вось я да гэтага часу не магу здагадацца, чаму ты купіў сабе сарочку горшую як мая, а даражэй заплаціў?

— Бо чырвоная. Што гэта ў цябе на грудзях?

— Памятка калчакоўцаў—выразалі зьвязду, але нашыя перашкодзілі... Зарубцавалася.

— Усё гэта адходзіць у даўнасьць...

Гасяць сьвет. Водблеск электрычтва з гораду, бы зарава далёкага пажару, слаба асьвятляе пакой.

І так дзень працы кончаны. Узышлі яшчэ на адну ўсходку да вяршыны, што хаваецца ў тумане недасягнутага. Але што ім да тэй далёкай неразгаданасьці—яны ведаюць, што ім трэба дайсьці да вядомай усходні, з якой яны натолькі ўзмацуюцца, што змогуць будаваць фабрыкі, самалёты і навучацца браць з зямлі ў колькі сот разоў болей, як ёй даецца, навучацца разганяць хмары на небе і на зямлі; яны ведаюць, што адступленьня няма, бо за імі валам валіць гушча, натаўп „цёмных“ і „быдла“ пакалішняму, а пацяперашняму—тварцы, змагары, волаты. Яны што не рабілі—завершалі, з кім не змагаліся—перамагалі. Іх авангард перамогшы бегоў, цароў, усе фронты і напасьці, перамогшы дзень навукі, супачывае ў пакоі № 184.

# „З дымам-пажарам“.

### Драма ў 3-х дзеях.

(*Адрывак з драмы; 1-я дзея*).

Алесь Бяздольны.

---

## 1-шы АБРАЗ.

Адбываецца ў сьнежні месяцы 1918 г. Момант адыходу немцаў з Беларусі і прыходу бальшавікоў. Лес. Ноч. Дзесь далёка відзен пажар. Вогнішча, закрытае з большага гальлём, каб з далёку ня было відаць сьвятла, каля якога невялікая грамада беларускіх сялян і рабочых. Калі падымаецца заслона, каля вогнішча пяюць ціха сумную песьню. Частка галоты туліцца ля вогнішча.

### ЗЬЯВА I.

Сымон. Эх, таварышы! Нам траціць няма чаго, апрача сваіх ланцугоў, а дзеля гэтага няма чаго і сумаваць. Мне часамі таксама зробіцца так сумна, што хоць жывы ў магілу лезь, але раптам—як успомніш, што нашы бацькі, дзяды і прадзеды жылі яшчэ горш пад царскім уціскам і панскім ярмом, дык у мяне зьяўляецца такая адвага, сіла і моц, што, здаецца, увесь сьвет перавярнуў-бы дагары нагамі.

Тодар. Гляджу я гэта на вас, дзеткі, дый думаю, шкада мне вас маладых. Праўда, і мы сьветлага жыцьця ня бачылі, але ўсё-ж-такі сяк так, хоць і пад цяжкім ярмом, але дажывалі свой век і паміралі ў сваёй бярлозе, а цяпер што робіцца? Нічога не магу сьцяміць.

Лявон. Кінь дзядзька пець свае нудныя песьні. Чымся так жыць і здыхаць, як замучаная скаціна ў сваёй бярлозе, дык лепш злажыць сваю галаву ў бойцы з тым, хто зьяўляецца віноўнікам такога жыцьця.

Сымон. Няма там чаго завадзіць спрэчку. Яго, брат, не пераканаеш. А вось лепш зьбегай на край лесу да нашай варты і разьведай усё, што дзеецца там. Толькі помні, будзь асьцярожны.

Лявон (*жвава ўскочыўшы*). Добра, я ўраз (*пабег*).

Сымон. А вы, хлопцы, дзяржы вуха востра. Я чуў, што не сягоньня дык заўтра прыдуць нашы, нацца, чырвоныя. Яны яшчэ на тым тыдні выступілі са Смаленску, і йдуць сюды на захад. Ну й дадзём-жа мы дыхту розным паном і падпанкам! Чаго яшчэ ня зьнішчылі сягоньня, то зьнішчым заўтра. Мяне толькі непакоіць гэта тое, што мы ня маем мажлівасьці згуртавацца так, каб у кожную хвіліну змаглі адкрыта ўступіць у бойку з нашым ворагам, а тут, як на злосьць, і Мацея сягоньня доўга няма.

Цётка. І Мацей, як падзівіся, у каго ён толькі ўдаўся? Бацька, нябожчык, бывала, баяўся перад панам слова сказаць; як авечка пакорная. Адзін раз, помню, панскі аканом на пасецы як пачаў яго лупцаваць бізуном, дык я баба, і то не сьцярпела і пачала галасіць, а ён, бедны, толькі зубамі скрыгоча ды кулакі сьціскае і маўчыць, як немы.

Тодар. Ды што й гаварыць. Хто не хацеў, той і ня зьдзекаваўся над нашым братам.

Сымон. Мацея трэба зразумець. Каму ён зрабіў крыўду ў 1905 годзе, спаліўшы панскі маёнтак? А 10 год катаргі—гэта ня жарт. Ды яшчэ розныя зьдзекі, і ўсё такое. Вось цяпер у яго ўся гэтая помста і выліваецца наверх. Памойму так і трэба—помста, дык помста. Я ніколі не забуду яго слоў, калі ён закуты ў ланцугі пры выхадзе з вастрогу, для атпраўкі у Сыбір на катаргу, перад грамадой нашага сялянства закрычаў: „Адамсьцім, аж зямля задрыжыць.“ Вось цяпер і настаў час помсты.

Цётка (*плачучы*). А мой Алеська, каб ім у пекле дна ня было, так і не вярнуўся, бедненькі.

### ЗЬЯВА II.

Лявон (*бяжыць задыхаўшыся*). Хлопцы! тушэце агонь і будзьце нагатове. На пажар наляцела нямецкіх салдатаў—як хмара. Быў на варце Мацей і казаў вартавому, што ўсё добра будзе. Недалёка чырвоныя. Немцы пасьпешна зьбіраюцца ўцякаць, уся панская погань, як звар'яцеўшая, ня ведае, што рабіць,- ці тушыць пажар, ці ўцякаць з немцамі, ці шукаць нас. Мацей, надзеўшы другую вопратку і шапку, сочыць за кожным рухам.

Сымон. А дзе Галіна, не казаў Мацей? Нам самым трэба сачыць, каб яна не папала ў лапы гэтых гвалтаўнікоў. Бо страціўшы Галіну, мы можам страціць і Мацея. Ён любіць яе больш усяго на сьвеце.

Лявон. Не, не казаў, але я ведаю, што яна на сяле. Яшчэ ўчора Мацей даў ёй нейкае заданьне.

Сымон. Сьцяпан! Бяжы хутчэй на сяло, знайдзі Галіну і скажы, што калі яна ня мае даручэньня ад Мацея, хай ці схаваецца на сяле, каб яе не маглі знайсьці немцы, ці бяжыць сюды да нас.

Сьцяпан (*хутка зьбіраючыся.*) А потым што рабіць?

Сымон. Потым асьцярожна прабярыся ў двор на пажар, знайдзі Мацея і запытайся, што рабіць нам? Ну, хутка!

Сьцяпан. Я ў момант (*пабег*).

Сымон. Ну, хлопцы, цяпер трэба быць нагатове; раз паднялася такая завіруха, то мы кожную хвіліну можам спаткацца ці з панамі, ці з немцамі, а яны цяпер злыя, як мухі ўвосень, і з намі цацкацца ня будуць.

Тодар Э-хэ-хэ! Ну й часы насталі!

Сымон. Цссс. Чуваць шорах у лесе. Нехта йдзе (*прыслухоўваюцца; усе зварухнуліся*). Сядзеце спакойна, быццам так сабе аддыхаем. Як бяздомныя.—Толькі помніце, дзе чыя захована зброя.

Юрка (*які стаяў на варце бягучы*). Ну, хлопцы, трымайся. Мацей яшчэ падпаліў два панскіх фальваркі і ў адным у пакоі запёр на замок самога пана. Сабаку сабачая сьмерць. Уся панская дворня кінулася на сяло прасіць сялян, каб беглі тушыць пажар, а лясьнічы з нямецкімі салдатамі пайшлі шукаць нас, і асабліва Мацея. Нехта ім

выдаў, што пажары—гэта справа рук Мацея і яго хаўрусьнікаў. Яны разаслалі па лесе сваіх разьведчыкаў, каб высачыць нас. Будзьце асьцярожны! Мацей казаў, хутка будзе тут.

Сымон. Цяпер, хлопцы, слухайце майго загаду. Ты, Юрка, бяжы на сваю варту каля вялікай дарогі і будзь там да таго часу, пакуль можна быць.

Юрка. Добра, а калі прыдзе Мацей, то скажэце яму, што я ў кусьце каля старога дуба (*пабег*).

Сымон. А вы ўсе павінны ведаць, што, калі на нас нападуць, мы жывымі ў рукі не павінны здавацца. Ці так прападаць, ці гэтак.

Язэп (*досыць спакойна*). Ня трэба толькі гарачыцца. Пасьпяшыш— людзей насьмяшыш. Давайце затушым агонь, самі пахаваемся па кустох, а цётка з малым і дзядзька Тодар хай сядзяць каля вогнішча. Калі нашыя госьці будуць здарацца па аднаму, то мы з імі будзем спраўляцца паціху. Усе ведаеце, дзе нара? Ну, вось іх туды і будзем мяркаваць, а калі прыдуць узброеныя немцы, ці якая іншая погань, то мы ня будзем паказвацца, а цётка з малым і стары скажуць, што нічога ня ведаюць.

Сымон. Гэта праўда. Плян добры. Ну, хутчэй за справу, час ня церпіць. (*Хутка ўсе тушаць агонь, хаваюцца па кустох. У лесе становіцца жудасна. Дзесь далёка крікае сава і відаць водблеск пажару.*)

Цётка (*плачучы ў паўголаса, абымаючы і тулячы да сябе хлапчука*). Бедненькі ты, Ясячка, няхай ужо мы старыя церпім такое гора.— Нам усё роўна хутка паміраць, а ты-ж ні ў чым не вінаваты.

Тодар. Гэта праўда. Нізашто-ніпрашто, зладзеі, асірацілі дзіцянё.

Ц-с-с—Нехта йдзе. (*Прыслухоўваюцца*).

## ЗЬЯВА III.

Лясьнічы (*ідзе крадучыся, разглядаючы, у паўголаса*). Во, тут зусім сьвежыя сьляды. Чуваць запах дыму. Хто-ж-бы мог тут быць? Каб вайсковыя рабілі папаску, дык адразу было-б відаць. Напэўна тут была гэта самая галота—па ўсяму відаць.—

Цётка (*усхліпваючы, ня можа стрымацца ад плачу*).

Лясьнічы (*убачыўшы, пацiху падыходзячы*). Вы хто такія, адкуль, і што тут робіце?

Цётка. Мы, панок, бежанцы, з-пад Вільні. Нідзе прыпынку няма. Заблудзіліся ў лесе ды папалі вось на вогнішча, ну і селі аддыхнуць крыху і пагрэцца.

Лясьнічы. Лжэш, старая ведзьма! Ведаем мы гэтых бежанцаў. Паліць панскія маёнткі, трымаць сувязь з чырвонымі—вось ваша работа.

# Нядобрае сьвята.

## М. Брытт.

Зімняе сьвята Міколы.

Сяляне, дагледзеўшы скаціну, сьвяткуюць па хатах. Кожны сьвяткуе пасвойму. Вось сьвяткуе сям'я і Макара Трубача. Сам Макар забраўся на печ і за комінам грэе бакі. Бабы таксама ў хаце, але-ж ня грэюць бакоў: яны прымасьціліся да лаўкі і вядуць якуюсь бабскую працу. Вось нявестка Матруна з грабянцом у руцэ капяшыцца ў галаве маткі—сьвякрухі.

Вошай б'ець. Матка, варочаючы галаву пад рукамі Матруны, вядзе гутарку пра тое, як яна бачыла ў другой вёсцы зьяўленую „божаю маць“.

— Людзей там, ягадка ты мая, зыйшлося—і пералічыць нельга. Ой! колькі!.. Была гэта служба. Вельмі цікавая служба: два папы з дзяканамі служылі. А людзі ўсё ідуць да гэтага вобразу. Папы нават ужо не спраўляюцца малебны служыць. Людзям усё яшчэ канца няма. Ідуць і ідуць. Падходзяць і грошы кладуць на талерку.

Ой! колькі было накладзена гэтых самых паперак!

Сама бачыла, як дзякан некалькі раз завернецца ад людзей к талерцы, схопіць раптам грошы з талеркі ды ў кішэню.

А яна, ўладычыца—проста як жывая. Так зьяе!

---

Гутарка зацікавіла нават Макара, бо ён ня ўлежаў і зараз пачаў весьці спрэчку.

— Калі-б гэта ня глупства?

Ты мусіць, балазе, сочапуючы гэта, ня разглядзела добра?

Здаецца, ніколі ня было такога здарэньня, каб божая маці да грэшных сялян зьявілася. Дальбог, гэта штось ня тое!

— Вось дурань стары! Я-ж табе кажу, што зьявілася. Як-жа глупства? Я сваімі вачыма бачыла.

Вось як цяпер бачу: стаіць прачыстая на падставе ля крыніцы. Твар—так і зьяе!

— У-ух! Што робяць папы—ківаў галавой Макар.—Нажываюцца, каму трэба. І тут экономічную політыку завялі.

Боскай справай гандлююць праміж сялянамі.

Гэта штось нядобрае!

— А якая яна з сябе?—апытала Матруна,—вялізарная?

— Ой, не, маладзіца. З нашу во, з Казанск 'о.

Толькі старая-старая!

— Ад хваробы кабетам добра дапамагае. Цуды робіць.

Сама сьведка, як сьляпы пры мне ўбачыў і хворае дзіцянё папраўілася.

---

У той час, які шла гэта гутарка, увайшоў сярэдні сын Міхась, які толькі вярнуўся з пасяджэньня выканаўчага комітэту.

Ён таксама пачаў прыслухоўвацца да гэтай гутаркі, але не зацікавіла.

— Усё гэта глупства, ды больш нічога,—адказаў Міхась, садзячыся за стол.

Вось, маці, дала-б ты чаго зьесьці, бо я сёньня надта прагаладаваўся.

— А ці мы-ж прычым, што табе не сядзіцца, усё бегаеш, як сабака. Апрача цябе аднаго ня буду гатовіць стравы.

Трымай, што засталося ад абеду, ды на іншае ня дзіві. Трэба ў час прыходзіць!—ня гледзечы на сына адчытала маці.

— Эх і жыцьцё! Сярбай гэту ваду, няўжо малака нельга даць?

Дзьве каровы ў нас ацяліліся. Вось ўжо пэўны, што вада на стале, а малако на дварэ.

— Чаго-ж не ясі?—зьвярнуўся да Міхася бацька.—З восені закормлены? Не, ліхія хваробы табе, а не малака.

— Уздумаў чаго на апошні тыдзень. Людзі хлеб кідаюць есьці, а ён малака захацеў.

— Я табе і заўсім нічога ня дам!—крыкнуў Макар.—Дзе працуеш, там і еж. А што мне з твае службы?

— Вось тут-то! Я савецкі працаўнік. У комітэце працую!

— А колькі ты за гэта атрымаў грошай?—я цябе пытаю.

На боты нават ня прыдбаў... Яшчэ і цяпер у маіх цягаешся. За цябе аж праз людзей сорамна.

Хто так робіць, як ты?

Чужыя дзеці ў сьвяты дзень у цэркве—а ты ў комунію!

А што толку з яе?

Вось што мой сын,—па-добраму табе кажу: ты ўжо ў гадох. Дакуль табе басякавацца. Жаніць трэба! Нявесту мы падабралі. Дачку Сьпеляка. Прыгожая, цікавая. Падумай ты добра ды ў сваты на колядах пойдзеш. Ня ўзяць нам за цябе такую дзяўчыну—шкада!

— Вось што, тата, я згаджаюся жаніцца, ды толькі-ж аблюбаваная вамі дзяўчына за мяне ня пойдзе.

— Як гэта яна ня пойдзе?—Макар усё мацней і мацней разьбіраўся. Ён ужо гатоў быў Міхася разьмясіць на капусту.

— Як так ня пойдзе?

Хіба ты чым ня згоршы, ай хочаш ганьбіць мяне?

Глядзі, хлапец, каб я з табой не расправіўся ўзапраўды!

— Крычаць нечага, тата, бо справа ня ў тым! Я-ж вянчацца да папа не пайду, а аблюбаваная вамі дзеўка так не захоча. Калі-ж па грамадзянску, дык я згаджаюся хоць сёньня.

Гэты адказ Міхася быў для Макара, як сьнег на галаву.

— Ды што-ж гэта? Зусім ад Хрыста адчураўся, ці ў жыды захацеў?

Эге! Гэта я цябе дзеля гэтага выгадаваў?.. Вон з бацькавай хаты!

Вон!.. а то я цябе, сукінага сына... Бацька бяз думак схапіў чапялу і раптам кінуўся на сына. Пачалося такое здарэньне, якого ніхто не чакаў.

— Ой-ёй божухна, а ці так-жа прыгожа радзі сьвята—загаласілі матка з Матрунай унімаючы ачмярэўшага бацьку.

— Адыдзі! Нячыстая сіла!.. Напладзіла антыхрыстаў на маю галаву.

Вон і ты! Вон сучка!

Матка кінулася снопам у ногі Макара.

— Макарачка... Родненькі! ці я-ж віноўна!

— Ты!.. Чаго-ж я?

Умейсьці пладзілі.

Але гэта да Макара як-бы і не датычылася. Ён равеў, як страшэннае жывёла, і швыраў усіх з хаты.

З голасам выбеглі бабы з двара.

---

Макар застаўся адзін. Ён так разышоўся, яго думкі так скакалі, што ніяк нельга было апомніцца, і ён нават ня прыкмеціў таго, як у хату ўвайшоў малы Федзька, які надта прамёрз гуляючы ў сьнежкі.

Федзька, не спадзяваючыся, што сёньня бацька такі дурны, як заўсёды не распранаючыся і не жагнаючыся палез проста да стала, дзе застаўся недаедзены Міхасём абед.

— Тата, а дзе-ж матка, чаго ты адзін сядзіш?

— Чарты зьелі!

— А ты, чортаў вырадак, чаму не жагнаючыся лезеш да стала? Ці вочы павылезьлі—абразоў ня бачыш!..

— Бачыў, ну,—а ці-ж з гэтага абед смачнейшы будзе?

— Дык і ты комуністым жадаеш зрабіцца? Ці не баішся на тым сьвеце гарачую патэльню лізаць?

Бог-жа ўсё бача – прыставаў бацька да Федзькі.

— Ці гэта-ж бог? Мне настаўнік казаў, што гэта сапраўдная дошка. Дальбог, дошка! Калі не згаджаешся, пабач сам. Вось я табе пакажу.

З Федзькам сёньня як штось здарылася. Як ніколі. Ён схапіў абраз ды і суне бацьку пад нос.

— Дык што, гэта цябе так у школцы вучаць?

Вон і ты!

Ігнат, усхапіўшыся, не залучыў у рукі якой палкі ды абразом як смальне па Федзьку.

Шкло так і зазьвінчэла.

Але Федзька спрытны.

Раптам за дзьверы, жмурк і няма.

— Госпадзі, ды што-ж гэта?

Здаецца-ж, сёньня сьвята—а ў мяне, як чорт залез.

Ой, што-ж гэта такое? А людзечкі добрыя?

Макар бегаў па хаце, а ў утробе здавалася, як чэрці якія сядзяць?

Ох, і нядобрае сёньня сьвята?

8/XII—23 г.

# Пад панскай пятой.

*(Абразок з жыцьця Заходняй Беларусі).*

## М. К.

Камеры для бандытаў, партызан з Белавескай пушчы, былі ў самым нізе.

Высокія сьцены будынку турмы засланялі косы сонца, і здавалася, што яны трымаюць на сваіх плячох неба. Нічога ня было чуваць, што рабілася на вуліцы, акрамя піску вагромністых жалезных варот. якія час-ад-часу ўпускалі здаровых, сільных, маладых, а выпускалі ўзброеных канваёраў.

Часам стогн, лаянка і сьвіст бізуноў, як з-пад зямлі, несься з маленькай з жалезнымі градкамі клеткі.

Выходзілі адтуль нямногія. Ужо праз месяц малады бадзёры здаваўся паўжывым. Яны бялелі, рабіліся задуменнымі і негутарлівымі. Адна надзея на помач, аднекуль, здалёк, будзіла ў іх чалавечую жыцьцёвасьць.

А многія, дык і аб гэтым ня думалі.

Вось, напрыклад, маладога хлапца партызана ўжо 10-ты раз вадзілі на дапрос. Пакой «Sledczego» быў у другім будынку. Але спраўляліся штосьці хутка. І ўжо не вялі, а несьлі на насілках.

У камеры скінулі з насілак, як муляры скідаюць пясок, на цымяатовую падлогу і замкнулі на замок.

Яму было гадоў дваццаць.

Высокі, стройны, грудзі быццам гэркулеса. Каліось ён быў першым кавалерам у вёсцы. Жартун. Перад мацераю песьціўся.

Цяпер ён таксама быў высокі, можа яшчэ і вышэйшы.

Вочы ўпалі.

Згорбіўся.

Валасы стаялі, як валасы ў вожыка.

Доктар гаварыў, каб за ім часьцей наглядалі, так як ён чалавек ужо не ў сваім розуме і часта дрывіць у гарачцы.

Чаго добрага яшчэ што зробіць...

І ноччу калідорны «dozorca» два разы ў гадзіну падыходзіў да дзьвярэй яго камеры, адчыняў ваконца, глядзеў і слухаў—і слухаў, глядзеў.

Калі ўсюды заціхала і ўсе спалі.

Перад арыштантам усплывалі мінулыя часы. Маленства.

Тады ён ажываў.

Ах!.. Як прыемна і міла была гутарка з бацькамі за абедам у нядзельку рана.

Ці на начлезе, калі вадзіў ён коні.
Ці калі ганяў наспозранкі жывёлу.
А цяпер?..
Ён варочаўся і плакаў.
Быццам яго вязьлі ў школку вучыцца.
Не хацеў.
Крывіўся
і корчыўся.
Або раптам весялеў і гаварыў голасна:
— Добра, татка! Я вывучуся на інжынэра, тады прыду, абавязкова прыду, памагчы табе хатку паставіць...
— Татка! я ведаю, яна прыдзе тая частка.
— Яна ўжо недалечка.
— Глядзі, татка, вунь яна!
— Усясьветная ідзе!..
— Глядзі, яна ідзе!..
— Гура!.. Гура!..
— Ха-ха-ха...
Бухнулі ў дзьверы.
Залескатаў ключ у дзірцы і басам зароў 12-цёх пудовы «dozorca». Малады арыштант на хвілю спыніўся.
Залякацеў...
Вочы помсты наліліся крывёю.
— Нашто мне ў маёй цішы перашкаджаеш?..
— Нашто...
— Не падыходзь!..
Яшчэ гняўнейшы стаў «dozorca». Падула з магільнага склепу смуродам.
Пузаты «dozorca» круціў носам, папярхаўся і пляваў...
— Татка... Браты...
— Ха-ха-ха...
— Ён мяне заб'е!..
— Ха-ха-ха...
— Не!...
— Самі згінеце, каты!..
— Вось з бізуном стаіць!..
— Ха-ха-ха...
— Яшчэ мала білі!..
— Вон!.. Вон!..
— Ах!.. Ратуйце!..
Крычаў спацеўшы арыштант. І гукі па старых мурах сьценаў нясьліся ў глыб турмы, да другіх камераў...
Але і толькі...
Там яны заміралі.
Рэха іншы раз адбівалася
і глуха паўтарала—
— Ратуйце!..

8/XII 1923 г.

# Хроніка беларускае культуры ў Маскве.

* **Ю. Вольскі**—(студэнт Пэдфаку 2-га МДУ) апрацоўвае да друку зложаны ім лемантар для дарослых. Ён-жа рыхтуе матар'ял для складаньня хрыстаматыі для дарослых.

* **Г. Гарэцкі**—(навуковы супрацоўнік Нав.-Дасьледчага Інстытуту пры Ціміразеўскай С.-Г. Акадэміі і лектар Ком. Ун-ту Народаў Захаду) кончыў навуковую працу—„Вылічэньне прыбыткаў Беларусі“. У гэты час працуе над грунтоўным творам—„Эміграцыя і перасяленьні з Беларусі.“

* **Ул. Дубоўка**—(студэнт Літаратурна-Мастацкага Інстытуту) падрыхтаваў да друку зборнік вершаў, куды ўвойдзе і перапрацаванае народнае паданьне «Дзяўчына». Ён-жа вучоны сэкратар габінэту поэтыкі пры В. Л.-М. І. працуе над складаньнем падручніка для сярэдняй школы па тэорыі славеснасьці.

* **М. Дуброўскі**—(студэнт В. Л.-М. І.)—малады беларускі пясьняр з Магілеўшчыны—працуе над дасьледваньнем омонімаў і сынонімаў беларускае мовы.

* **М. Лойка**—(студэнт Інст. Народн. Гаспадаркі) працуе над укладаньнем задачніка для беларускае школы. Як давялося чуць, падручнік абяцае быць вельмі цікавым як з боку мэтодаў, так і з боку зьмешчаных у ім матар'ялаў (шмат па экономіцы Беларусі).

* **Я. Полевой**—(студэнт Пэдфаку 2-га МДУ) езьдзіў на коляды ў паўночныя паветы б. Чарнігаўшчыны, дзе сабраў шмат матар'ялаў па беларускай дыалектолёгіі таго краю. У гэты час апрацоўвае іх пад кіраўніцтвам проф. Растаргуева і маніцца падрыхтаваць да друку ў выглядзе асобнай кніжкі.

* **М. Міцкевіч**—(студэнт Беларускае Драматычнае Студыі)—апрацаваў народную комэдыю «Цар Максіміліян», якая будзе пастаўлена ў Маскве 28-га красавіка ў памяшканьні 1-га цырку—Студыяй.

* **Л. Родзевіч**—(студэнт Ком. Унів-ту Народаў Захаду) падрыхтаваў да друку зборнік сваіх апавяданьняў „*На ўзьмежжы*“ і некалькі новых драм („Далоў паноў“, „Каншахты“, „Ноччу,“ „Паўдушы,“ „Шум маладняку,“ „Досьвіткі“ і інш.) Адначасна ён заняты выкладаньнем беларускае мовы ў Беларускай Драматычнай Студыі.

* **М. Равенскі**—(студэнт Маскоўскае Музычнае Школы, настаўнік Студыі і белсэктару КУНЗ) гармонізаваў каля 20-цёх народных песь-

няў і напісаў некалькі новых композыцыяў на творы беларускіх поэтаў. Піша композыцыю да опэрэты „Залёты“—(па Дуніну-Марцынкевічу).

* **А. Бяздольны**—напісаў новую драму—„З дымам-пажарам,“ якую з посьпехам чытаў на сходзе культурных працаўнікоў. Былі зроблены некаторыя ўвагі адносна зьместу і мовы.

* **Г. Парэчын**—(студэнт ІМДУ)—які напісаў раней кнігу „Советские республики в их взаимоотношениях“—піша новую кнігу—„Савецкі Саюз і Брытанская імпэрыя“.

* **А. Функ**—канчае пераклад кнігі з нямецкае мовы К. Каўцкага „Экономічная навука Карла Маркса.“ Кніга будзе, здаецца, друкавацца выд-ам „Савецкая Беларусь.“

* **Хв. Яхімовіч**—(навуковы супрацоўнік Анатомічнага Інстытуту ІМДУ) канчае навуковую працу—„Эволюцыйная тэорыя ў консэрватызьме.“

* **В. Сяньневіч**—(студэнт Інстытуту Організ. Народнае Асьветы) кончыў навуковую працу—„Становішча народнае асьветы на Беларусі.“

* **К. Якаўчык**—(студэнт В. Л.-М. І) працуе над перакладамі з беларускае мовы на расійскую вершаў і прозы.

* **Проф. П. А. Расторгуеў**—чытае курс беларускае мовы і гісторыю літаратуры ў 1 і 2 Маскоўскіх Дзяржаўных Унівэрсытэтах. Напісаў і аддаў у друк („Энциклопедия всемирной Литературы“) нарыс па гісторыі беларускае літаратуры. Закончыў навуковую працу „Ляшскія рысы ў беларускай фонэтыцы.“ З прычыны занядужаньня (хвороба сэрца) ня скончыў да гэтага часу вялікую працу па дыалектолёгіі беларускае часткі Чарнігаўшчыны.

Ён-жа кіруе працаю студэнтаў лінгвістычнага аддзяленьня на пэдфаку 2-га МДУ, якія складаюць слоўнік беларускае мовы (дыалектолёгічны) і хрыстаматыю па гісторыі беларускае мовы для вышэйшых школ.

* **Проф. Ф. Р. Турук**—адзін з закладчыкаў Беларускага Дзяржаўнага Унівэрсытэту,—чытае на беларускім сэктары КУНЗ курс па гісторыі культуры. Апрача гэтага, працуе ў Ламаносаўскім Інстытуце, Вышэйшай школе Вайсковай Майстроўні і здаецца, па організацыі Бухарскага Унівэрсытэту. Працуе па дасьледаваньню гісторыі Беларусі.

* **Беларуская пясьнёвая комісія** ў Маскве, з'організаваная Прадстаўніцтвам Беларусі па заданьню з Менску, у студзені мела такі склад:

Старшыня—М. М. Іполітаў-Іванаў,
Сябры комісі—А. Т. Грэчанінаў,
А. А. Аленін,
Я. В. Прохараў,
Н. Н. Нікольскі,
Аладаў

Гармонізавалі яны больш чымсь 250 песьняў. Найбольшай продуктыўнасьцю вызначыўся Я. В. Прохараў.

З 1-га лютага, дзеля адсутнасьці новых запісаў народных песьняў, комісія зьліквідавана.

* Да гэтага часу ў Крэмлі выдавецкім аддзелам ЦВК Саюзу ССР, у выкананьне арт. 34 Аснаўнога Закону Саюзу ССР, надрукованы наступныя кнігі на беларускай мове:

1. 1-ы Зьезд Саветаў Саюзу ССР і 1-ая сэсія ЦВК Саюзу ССР стэногр. справаздача з дыаграмамі 2.500 экз.

2. Пастановы 1-га Зьезду Саветаў Саюзу ССР 1.500 „

3. 2-я Сэсія ЦВК Саюзу ССР—стэн. спр-чы і пастановы, у тым ліку Аснаўны Закон Саюзу ССР 2.000 „

4. Весьнік ЦВК, СНК і СПА Саюзу ССР па 5.000 экземпляраў (з іх 3.000 экземпляраў брашуруюцца ў адзін сшытак на 6-ёх мовах, а 2.000 томаў на беларускай) 65.000 „

5. Аснаўны Закон (Конституцыя) Саюзу ССР—на зацьверджаньне 2-га Зьезду Саветаў Саюзу ССР 3.000 „

Над перакладамі працуюць студэнты МДУ Галеш, Піліповіч і рэдагаваньне праходзіць праз паўнамоцнае прадстаўніцтва Беларусі пры ўрадзе Саюзу ССР.

# Зьмест.

